Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714
http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl
№ 28 (3139) Год LXI
Беласток, 10 ліпеня 2016 г.
Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


Цэнтр духавой музыкі → 3


На «Тройцу» у Мельніку → 8

# XII Купалле каля Лянева



Перад сцэнай гулялі дзеткі, а пасля таксама дарослыя (выступае «Маланка» з Бельска-Падляшскага)

**Фэст «Купалінка» быў арганізаваны 25 чэрвеня каля Лянева дванаццаты раз. Вядомы фалькларыст Дарафей Фіёнік са Студзіводскага музея, які супрацоўнічае таксама з Гмінным асяродкам культуры ў Чыжах, гэтую колькасць называе юбілейнай, а супадае яна між іншым з 12 месяцамі ў годзе і з 12 апосталамі ў хрысціянскай традыцыі. Купальская традыцыя выводзіцца з назірання прыроды і паганскіх вераванняў, але зараз прымеркавана яна да хрысціянскага святкавання ў гонар Нараджэння св. Іаана Хрысціцеля, аб чым гаварылася са сцэны падчас «Купалінкі». 25 чэрвеня была вялікая спёка, але пад вечар каля вадаёма на рэчцы Локніцы зрабілася прыемна. Тады сабралася многа людзей, якія прыбылі паслухаць беларускія песні і адпачыць на прыродзе. Аб сямейным характары мерапрыемства сведчыў, між іншым, гарадок для дзіцячых гульняў.**

На лянеўскі фэст «Купалінка» прыязджаюць жыхары Беластока, Гайнаўкі і Бельска — выхадцы з Лянева і навакольных вёсак. Сустракаюцца яны тут са знаёмымі з дзяцінства і вучобы ў сярэдняй школе, успамінаюць моладасць, спатканні на вясковых забавах, якія найчасцей ладзіліся ў Чыжах і Кленіках. Я спаткаў сябру з сярэдняй школы, які зараз жыве ў Элку. Купальскія традыцыі зараз не ўспрымаюцца так, як гэта было ў далёкім мінулым. Тады ў самую кароткую ноч года людзі выяўлялі пашану для сонца, агню, вады і звярталіся з просьбамі да паганскага Купалы. Зараз у нас мала хто ведае значэнне паганскіх, купальскіх абрадаў у дахрысціянскі перыяд.

XII Фэст «Купалінка» адкрыў войт Чыжоўскай гміны Юры Васілюк. Пачаўся фэст у пяць гадзін пасля абеду. Тады збіралася штораз больш моладзі, якая слухала музыку і чакала танцавальнай вечарыны пад гукі калектыву «Ас» з Беластока. На фэсце былі добрыя ўмовы, каб пагуляць з дзеткамі. Для іх быў падрыхтаваны спецыяльны дзіцячы гарадок. Сваю тэхніку прэзентавалі пагранічнікі з Белавежскай заставы. Пажарнікі з Чыжоў палівалі ахвотных дзетак і старэйшых воднай расой.

— Гэтую шыкарную, вельмі добра абсталяваную пажарную машыну мы атрымалі ў рамках польска-беларускага праекта, — сказаў адзін з чыжоўскіх пажарнікаў.

Пажарнікі сачылі таксама за парадкам на аўтастаянках і кіравалі патокам машын. Пажарнікі з Гайнаўкі дэманстравалі ўмовы працы пажарнікаў у палатцы напоўненай дымам. Дзеткам прапанавалі яны катацца на водных веласіпедах у невялікім гумовым басейне. Дзеткі спаборнічалі ў конкурсе ядзення навыперадкі трускалак — у мінулым славутага лянеўскага экспартнага прадукту. Вучні Комплексу школ у Чыжах прынялі ўдзел у праекце, падчас якога Лена Васілюк з «Чыжавян» знаёміла іх з купальскімі традыцыямі, вучыла спяваць купальскую песню і плесці купальскі вянок. Гэта дзеткі з чыжоўскай школы сплялі адзін з двух прыгожых вянкоў, якія паплылі па Локніцы.

— Я распавяла дзеткам пра купальскі абрад і шуканне папараць-кветкі. Мы хадзілі на прыроду, шукалі кветак і супольна плялі вянок. Другі вянок сплялі члены калектыву «Чыжавяне», — сказала Лена Васілюк.

Гаспадары, якія гадуюць кароў і свіней, пазней прыбылі на Купалле. Падчас фэсту гаварылі яны пра падзею, якая два дні раней ускалыхнула вёску Бельшчына, побач Дубін, дзе была выяўлена афрыканская чума свіней. Каля 280 свіней былі там утылізаваны, але ёсць пагроза, што гэтая заразная хвароба можа распаўсюдзіцца па ваколлі. Хаця на тэрыторыі Гайнаўскай і Чыжоўскай гмін некалькі месяцаў назад была ўведзена зона асабліва суровай аховы свіней, аднак гэтага было недастаткова, каб забяспечыць свіней у Бельшчыне перад хваробай, якая прыйшла на тэрыторыю Гайнаўскага павета хутчэй за ўсё з Рэспублікі Беларусь.

— Афрыканскую чуму знайшлі ў звыш дзесяці дзікоў у Белавежскай пушчы, ад якіх маглі заразіцца таксама свінні. У наваколлі гадуецца многа свіней, напрыклад, у Новым Беразове і Новым Корніне. Я цяпер вазіў кроў ад свіней з фермаў для праверкі, — сказаў ветэрынар Яўген Кавальчук, жыхар Чыжоў і член калектыву «Чыжавяне».

У Чыжоўскай і Гайнаўскай гмінах нават у выпадку гадоўлі 2-3 свінак патрабуецца, каб панадворак быў агароджаны. Трэба слаць палавікі перад варотамі і брамкамі з усіх бакоў панадворка, перад аборай або хлявом, дзе гадуюцца свінні, і адпаведнымі сродкамі мыць посуд, у якім носяць корм для свіней.

— Мае бацькі гадавалі больш свіней, але зараз гадуюць іх толькі на свае патрэбы, бо складана справіцца з усімі патрабаваннямі. Зараз хіба трэба будзе ліквідаваць нават гадоўлю свінак на свае патрэбы і з купленага мяса рабіць мясныя вырабы, — сказала жыхарка Чыжоў.

Перад публікай на траве займальна выступілі дзяўчаты і хлопцы з калектыву народнага танца «Перапёлка», які дзейнічае ў Гайнаўскім доме культуры. Запрэзентавалі яны, між іншым, беларускія народныя танцы. З беларускімі песнямі сола выступілі на сцэне маладыя дзяўчаты з Чыжоўскай гміны — Іза Карчэўская, Мартына Белавежац і Наталля Сельвясюк. Прыгожа спявалі таксама калектыў са школы ў Чыжах і калектыў «Верасы» з Чыжоў, у якім перш за ўсё спяваюць пенсіянеры.

— Падчас сёлетняга вучнёўскага конкурсу «Беларуская песня» мая дачка, Мартына Белавежац, якая выступіла сола, заняла трэцяе месца, а калектыў чыжоўскай школы апынуўся на другім месцы, — патлумачыла Іаанна Белавежац, чыжоўская бібліятэкарка.

Месяц назад завязаўся ў Моры вакальны калектыў, якога кіраўніком стала Вера Балтрамюк. У Ляневе адбыўся яго прэм'ерны выступ у саставе трое жанчын і мужчына.

— Раней Вера Балтрамюк спявала ў «Верасах», але рашылася заснаваць свой калектыў у Моры, — удакладніў Яраслаў Бялькевіч з Чыжоў, які, будучы пісьманосцам у Чыжоўскай гміне, добра пазнаёміўся з жыхарамі Мора. Летам гэтая вёска будзе ў цэнтры ўвагі таксама з-за беларускіх мерапрыемстваў.

— Мы рады, што ў нашай гміне ўзнік чарговы музычны калектыў. Летам, супольна з Беларускім музеем у Гайнаўцы, плануем наладзіць у Моры беларускі фэст. Сёння мы дамовіліся з Арлянскай гмінай, што супольна ў ліпені будзем арганізаваць беларускі фэст на полі, паміж Морам і Крывятычамі (апошнія распаложаны ўжо ў Арлянскай гміне) і назавем гэтую імпрэзу «На мяжы», — заявіў дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Чыжах Юры Якімюк. — Сёння сабралася многа людзей. Гэта цешыць, што ёсць для каго арганізаваць фэст і прапагандаваць беларускую культуру. Запрасілі мы нашы калектывы і іншыя гурты, якія ўмеюць прыцягнуць увагу публікі.

Паўгадзінны канцэрт даў калектыў беларускай песні «Маланка» з Бельска-Падляшскага, якога музычны кіраўнік Сяргей Лукашук заявіў, што гэтым летам чакаюць іх выступы на шматлікіх беларускіх мерапрыемствах на Беласточчыне. Займальна запрэзентаваўся беларускі калектыў «Арт-Пронар» з Нарвы. Цікава выступілі калектывы «Фэрмата» з Орлі, «Лайланд» з Беластока, «Ноуraku» з Бельска-Падляшскага і «Чыжавяне» з Чыжоў. Члены апошняга калектыву асабліва хваляваліся, бо трэба было запрэзентавацца перад сваёй публікай. Удалы выступ калектыву «Світанак» з Беластока закончыўся выкананнем жанчынамі гэтага калектыву песні «Купалінка», шэсцем да вадаёма і пусканнем «Чыжавянамі» вянкоў на ваду. А ноччу неба над Ляневам расквецілі каляровыя феерверкі.



Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

9 770546 196000



# Манеты на многія леты?

Жыць у Беларусі стала намнога весялей. Нарэшце ў дзяржаве з'явіліся манеты. Дагэтуль на ўсёй еўрапейскай прасторы мы заставаліся адзінай краінай, якая не мела звонкай манеты ўвогуле. Дарога да выбітай урэшце манеты заняла больш чым чвэрць стагоддзя. Адскакалі ў нябыт так званыя „зайчыкі", разам з усялякімі вавёркамі, бабрамі і ласямі. Чарговы раз паставілі крыжыкі на нуліках, гэтым разам ажно на чатырох. І на гэтым нацыя фармальных мільянераў перастала існаваць. Зрабіліся беларусы, як усе еўрапейскія народы, з манетамі, што адцягваюць кішэню. Вяртаецца і прымаўка, праўда не нашая — „капейка рубель беражэ". Хоць, ці зберажэ яна нешта — вельмі сумнеўна. Дзяржава яшчэ раз ашукае сваіх грамадзян праз лагічнае акругленне цэн. Вядома ў які бок яны акругляцца і хто ад гэтага выйграе, а хто страціць. Напэўна цешацца прадавачкі старэйшага веку ў разнастайных крамах. Не хацелася б пакрыўдзіць усіх прадстаўнікоў такой вечнай як свет прафесіі, але гэта асаблівая каста прафесіяналаў. Тое, як многія з іх выдаюць рэшту — гэта рэдкаснае філіграннае майстэрства і спрыт, якому б пазайздросціў сам Коперфільд. Іх улюбёны „кліент" — чалавек у акулярах. Калі ж выкрываеш такую кабету ў падмане, яна, не міргнуўшы вокам, сама раскажа пра сваю недарэчную памылку, растлумачыць скорамоўкай, чаму яна памылілася і папросіць прабачэння так шчыра і пранікнёна, што табе самому робіцца сорамна і няёмка.

Вяртаюцца і больш аб'ёмістыя партманэ, кашалькі, вацкі і каліты розных фасонаў і вырабаў. Беларускія грошы набываюць не вартасць, але важкасць. Нумізматы ўсяго свету зараз зацікавяцца Беларуссю і дакладна ідэнтыфікуюць нашу краіну на мапе планеты. Я б на месцы дызайнераў-распрацоўшчыкаў зрабіў бы яшчэ гэтыя манеты з дзірачкамі, як у Нарвегіі. Каб ніхто не здагадаўся для чаго гэта.

Так што, калі адкінуць іронію, ва ўсім можна знайсці станоўчыя моманты. Адзін з іх — тое, што новыя беларускія грошы знешне вельмі нагадваюць сучасныя еўрапейскія. Сама наяўнасць уласнай грашовай сістэмы — адна з прыкмет існавання дзяржаўнасці. Для нас гэта асабліва актуальна. Яшчэ камуністычны партакрат Вячаслаў Кебіч, які быў прэм'ер-міністрам Беларусі ў 1993 годзе, імкнуўся зліцца ў фінансавым і іншым экстазе з „братской Россией" і далдоніў з высокай трыбуны як мантру пра адзіную рублёвую зону. Потым той Кебіч з трэскам праваліўся на першых прэзідэнцкіх выбарах і настойлівыя размовы пра ўводзіны адзінай валюты з Масквой, зразумела якой і чыёй, гадоў на дзесяць заціхлі. Потым беларускі абывацель доўга захапляўся расейскім рублём, і нават адкладаў яго нароўні з доларам ці еўра. Незабыўны класік нашай палітычнай і гаспадарчай сістэмы Пётр Пракаповіч раіў грамадзянам дзяліць свае ашчаджэнні на тры часткі і трымаць іх менавіта ў гэтых трох валютах. Аляксандр Рыгоравіч пра аб'яднанне грашовых сістэм двух саюзнікаў, здаецца, нічога не казаў, цудоўна ўсведамляючы да чаго гэта можа прывесці. Апошнія гады расійскі рубель стаў імкліва губляць сваю вартасць, так што беларусы ўжо перасталі ім захапляцца, шанаваць і адкладаць на чорны дзень.

Самае цікавае, што сярэдні заробак беларусаў вярнуўся зараз на ровень 1991 года. Тады яшчэ не было нацыянальнай валюты, а хадзілі савецкія рублі. З таго часу перажылі беларусы ўжо некалькі дэнамінацый і некалькі змен сваёй валюты. Новыя купюры дастаткова падобныя на тыя ж самыя еўра, што ўжо выклікала хваравітa нервовую рэакцыю некаторых расейскіх прадстаўнікоў. Асабіста мне новыя банкноты падабаюцца, выглядаюць яны прыстойна і маюць нацыянальнае напаўненне. Канешне, хацелася б, каб былі талеры, а не рублі, але гэта, відаць, справа будучыні. А колькі пратрымаюцца новыя манеты — многія леты ці век іх будзе кароткі — будзе напэўна залежаць ад стану ўсёй эканомікі дзяржавы. Ці не з'есць іх новы віток інфляцыі — пабачым. А пакуль усе мы, як першакласнікі вучымся лічыць і пералічваць нанава. Кажуць, арыфметыка карысная для мазгоў, асабліва для мазгоў людзей сярэдняга і старэйшага пакалення.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Катоў любіш, або не

Я люблю іх, нягледзячы на іх падступныя блохі і раздражняльны характар. Да таго ж, яны маюць каля хвосціка тое, ці іх хтосьці любіць, кахае, паважае, ці не. Гэтыя істоты ва ўсіх адносінах незалежныя і аднолькава абыякавыя да чалавечай любові, як антыпатыі. А таксама — з гомацэнтрычнага пункту гледжання — яны несправядлівыя ў сваіх сімпатыях, як і брыдка капрызных пачуццях. У гэтых адносінах яны неяк падобныя на людзей. Але як быццам. І калі б яны атрымалі права голасу, верагодна ніколі не зрабілі б такіх абсурдных палітычных рашэнняў, як людзі, якія галасуюць паводле свядомай, але зусім незразумелай логікі натоўпу. Таму што каты з'яўляюцца крайнімі індывідуалістамі. І ў кожным выпадку, і ў любы час. А натоўпу баяцца яны проста панічна.

Я не думаю, што нейкі кот прагаласаваў бы за ПіС, хоць старшыня партыі з'яўляецца іх прыхільнікам. Або за ГП. Ані за якую-небудзь лявіцу або корвініцу. Стаўлю пад заклад маладога пеўніка супраць незаседжанага яйка, што ў сваёй выбарчай акрузе каты масава ставілі б на КОД (Камітэт абароны дэмакратыі) — такі нямілы цяперашняй уладзе. КОД уяўляе сабой сукупнасць інтэрнэтных індывідаў, крыху нагадваючых грамадку марцуючых катоў. Кожны там кажа сваім голасам, кожны ў адпаведнасці са сваімі патрэбамі. У першых выступах усё зліваецца ў какафонію, але ім вышэйшы рэгістр эмоцый, тым вышэйшы ўзровень асабістай адказнасці і клопату пра Польшчу, тым больш у гэтым харавым вэрхале гармоніі і сэнсу.

Падчас апошніх выбараў у Польшчы КОД яшчэ не існаваў. Сёння выяўляецца галасамі значнай часткі грамадзян як вялікі патэнцыял іх калектыўнай свядомасці. На жаль, да гэтага часу толькі патэнцыял, а не канкрэтная сіла будучая ў стане супрацьстаяць дэмантажу дэмакратычнай дзяржавы, які робіць на ёй цяперашняя ўлада. Калі гэты патэнцыял не знойдзе для сябе хутка адпаведнай палітычнай формулы, неўзабаве размыецца ў інтэрнэтнай бурасці. У мяне няма сумневаў, каб супольнасць КОД так клапацілася аб сваю выразнасць, яна ўжо гэтым фактам вельмі стамілася. Здаецца, ужо самая пара перайсці да канкрэтыкі.

Але КОД гэта не кот. А я хацеў пра катоў. Не пра палітыку.

Сябар і вораг з'яўляюцца паняццямі для катоў несупярэчлівымі. Нават калі ставяцца яны да кагосьці з непрыязнасцю, гэта не таму, што ён з'яўляецца іх ворагам. Ва ўсякім выпадку, могуць такога чалавека пацарапаць да крыві, і нават падступна ўпырскаць яму калашыну. Яны невядома чаму адорваюць любоўю кагосьці цалкам незаслужанага. А варожасцю каго-небудзь, хто гэтага не заслугоўвае якім-небудзь учынкам. Але без увагі на тое, хто лявак або правіцовец, атэіст або тэіст, дазваляюць пагладзіць сябе толькі тым, каго яны самі выбралі. Якімі крытэрыямі кіруюцца, невядома. Вядома толькі, што асобы, выбраныя катамі, павінны адчуваць сябе шчаслівымі. І могуць яны быць і багатымі, і беднымі, і паслядоўнікамі Алаха, іудзеямі, ці хрысціянамі; заўзятарамі-хуліганамі, маладымі нацыяналістамі, геямі, альтэрглабалістамі, і святарамі — у тым ліку айцом Рыдзыкам і айцом Ісаковічам-Залескім. На самой справе, катам усё роўна, хто ёсць хто, таму што людзі з усёй сваёй цывілізацыяй і культурай, з палітычнымі эмоцыямі і сваркамі, гэта толькі перыферыйная частка іх неспасціжнага сусвету. Некаторыя людзі, аднак, не хочуць прыняць гэтага, кажучы, што яго пастаянным элементам, воссю яго непахіснага парадку, з'яўляецца чалавек. Такое гомацэнтрычнае стаўленне пераносіцца таксама на палітыку. Што ж, я таксама чалавек, але ў гэтай частцы самаўпэўненых у сваёй рацы не змяшчаюся. Як і ў Польшчы, якой воссю зацвердзілася ПіС і забівае гэта грамадзянам у галовы, як вялікі цвік. ТОЛЬКІ ШТО ЦВІК, ГЭТА НЕ ВОСЬ. Сысці можна з розуму.

**Мірaслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Цана восені жыцця

Падляшскі сезон кулінарных і народных фэстаў у поўным разгары. Здаецца гэта быць для рэгіёна рэальнымі малочнымі рэкамі з кісельнымі берагамі, мае быць тым распазнавальным брэндам ваяводства, за якім стаяць згодным мурам нашы ўлады ўсіх узроўняў. Іхняя прамацыйная прапанова для ўсёй Польшчы і свету гучыць так: Падляшша — прырода, яда, святыні і танцы ў неакрэсленай вышыванцы. Таму пасля ўваходу Польшчы ў Еўрасаюз стаўка на турызм як галіну эканомікі ў разуменні падляшскіх улад мела нас зрабіць багатымі і шчаслівымі. Аднак выдадзеныя мільёны еўрасаюзных сродкаў на гэтую справу не далі аж так станоўчых вынікаў.

Падляшскія вёскі адміраюць, маладыя з гарадоў выязджаюць у Польшчу і далей у Еўропу. А запушчаныя ў рух з пятніцы да нядзелі летняй парою, найчасцей за самаўрадавыя грошы, шматлікія фестывалі і фэсты харчавання, танцаў і спеваў, апрача прыбытку для міжнародных напіткавых кампаній, замест спадзяваных грошай у мясцовыя бюджэты прыносяць пахмелле для ўдзельнікаў і арганізатараў. Не значыць гэта, што я поўнасцю супраць такіх мерапрыемстваў. Не, я супраць бяздумнасці і безадказнасці самаўрадавых і ўрадавых структур за лёс і рэальныя патрэбы карэнных жыхароў і выдаванню грошай у космас. Нават у Падляшскім ваяводстве зусім іншыя выклікі і патрэбы пад Ломжай, Высокім-Мазавецкам, Сувалкамі, а іншыя ў гайнаўска-бельска-сакольскай паласе дэмаграфічнага адмірання і гаспадарчай адсталасці. **(Пра дэмаграфію ў Арлянскай гміне падрабязна чытайце на 4 стар.).**

Ад гадоў наглядаю, з якой заядласцю ідуць змаганні за пасады радных, войтаў ці бургамістраў, не гаворачы пра пасloў сейма. А чым яны потым аддзякуюць сваім выбаршчыкам? На жаль, не зразуменнем для патрэб людзей пажылога ўзросту. Згодна з самым прымітыўным думаннем скажуць: вы нікому непатрэбныя і давайце сабе рады самі. А калі не спраўляецеся, дык гэта выключна справа вашых дзяцей або дамоў для састарэлых. Самаўрадаўцаў праблемы сродкаў на забеспячэнне і аблягчэнне лёсу старэйшых людзей дзеля годнай старасці амаль зусім не турбуюць. А гэта ж людзі, якія цяжкай працай, потам, розумам служылі гэтай зямлі і тым гмінам, і аддалі ім свае найлепшыя сілы і здароўе. А набалелыя праблемы па аблягчэнні становішча старых людзей цяпер патрабуюць ад уладароў гмін, паветаў, маршалкоўскіх упраў сістэмных вырашэнняў. Асабліва ў кантэксце магчымасці атрымання сродкаў з еўрапейскіх праграм на 2014-2020 гады.

Да гэтай пары я не чуў, каб гміны Гайнаўскага, Сямятыцкага, Сакольскага, Беластоцкага і Бельскага паветаў далі магчымасць сістэмных праездаў жыхарам вёсак прынамсі раз на тыдзень да гмінных ці павятовых асяродкаў здароўя. Або, наадварот, напрыклад, каб два дні ў тыдні лекар аб'язджаў вёскі і наведваў найбольш патрабуючых медыцынскай апекі ў іх месцах пражывання. Ці ж гэта забаронена польскімі законамі?

А так, хворы чалавеча, ці ты інвалід першай групы, калека, з псіхічнымі ці іншымі абмежаваннямі, дабірайся да лекара як хочаш. Сем, дзесяць, пятнаццаць кіламетраў ідзі пешшу, едзь на ровары, а мо добры сусед завязе. А можа дзеці возьмуць два дні водпуску на працы ў Варшаве ці Кракаве і завязуць. А што, гміны не маюць транспарту? Маюць, бо ў дзень самаўрадавых выбараў заўсёды звозяць людзей на выбарчыя ўчасткі. Тады дапамогуць сесці і падвязуць пад скрыню і ласкава паставяць за цябе крыжык. Дык чаму ж, напрыклад, узамен за тую ж выбарчую падтрымку войту ці бургамістру кожную нядзелю, або прынамсі раз у месяц не завезці і прывезці людзей у царкву. Прабыванне сярод людзей гэта ж самая лепшая тэрапія, пра якую мараць самотныя беларускія пенсіянеры з нашых вёсак. А чаму ж не стварыць гмінных цэнтраў дзённай пабыўкі для людзей з абмежаваннямі руху ці псіхікі? Якая ж радасць была б тым людзям быць разам пад вокам добрых апякунак і медсясцёр. А ці не былі б удзячнымі блізкія і родныя гэтых хворых, калі ў дзень займаліся б яны штодзённымі справамі? А так аграмадная праблема. І ў дом для састарэлых тых людзей не трэба было б аддаваць з роднай хаты. І калі чую, што толькі дамы для састарэлых гэта адзіная прапанова самаўрадаў для вырашэння праблемы, то прапаную ім падумаць пра сваю магчымую старасць у такім месцы. Чаго не жадаю нікому, калі яшчэ адчуваем сябе людзьмі.

**Яўген ВАПА**

**Духавыя аркестры з Беларусі, Польшчы і Расіі далі незабыўны двухдзённы канцэрт у Сухаволі. Той невялікі гарадок на Падляшшы ўжо 14 раз гасцяваў музыкантаў са шматлікіх краін Еўропы. „Еўрапарад" — гэта свята не толькі тых, якія любяць духавую музыку, але і сам гарадок, які дзякуючы мерапрыемству набыў вядомасць у краіне і па-за яе межамі. Як рассакрэціў бургамістр Сухаволі Міхал Матыскель, у кругах духавых музыкантаў гаворыцца, што на „Еўрапарадзе" трэба проста быць.**

Сёлета на фестываль прыехалі музыкі з Беларусі, Расіі ды Польшчы і былі з энтузіязмам прыняты вялікай аўдыторыяй. Кожны год у час „Еўрапарада" можна чакаць новых музычных неспадзяванак. У 2013 годзе ў Сухаволю прыехалі аркестры з Італіі і Украіны. Яны заваявалі сімпатыю гледачоў эфектным маршам вуліцамі мястэчка. Дванаццаты выпуск фестывалю ў 2014 годзе — гэта захапляльнае выступленне гасцей з Літвы, з якой гміна завязала блізкае супрацоўніцтва. Іх спантаннае выступленне надоўга засталося ў памяці публікі. Сёлета фанаты духавой музыкі напэўна запомняць выступленне Духавога аркестра „Гелікон", які дзейнічае пры Дзіцячай музычнай


Аркестр музычнай школы ў Парэччы (Беларусь)

# Цэнтр Еўропы — цэнтрам духавой музыкі


Моладзевы аркестр з Газдова (Польшча)


Духавы аркестр „Гелікон", які дзейнічае пры Дзіцячай музычнай школе ў Мінску (Беларусь)

школе ў Мінску. У іх выкананні можна было пачуць аранжыроўкі песень легендарнага беларускага калектыву „Песняры", да якога сам дырыжор мае вялікі сентымент.

— Гэтыя кранальныя мелодыі вядомыя ўжо ўсім пакаленням, — сказаў дырыжор Яўген Паддубоцкі. — Дзякуючы таму, што мы цяпер іграем іхнія песні, чарговае маладое пакаленне мае магчымасць пазнаць творчасць Мулявіна, якога ведаюць толькі з карцінак. Я меў вялікі гонар выступаць з ім на адной сцэне.

Аркестр пры Дзіцячай музычнай школе ў Мінску Яўген Паддубоцкі вядзе ўжо 20 гадоў. Поспехі калектыву гэта, па вялікім рахунку, яго заслуга. Дырыжор сам іграе ў адным з самых вядомых прафесійных духавых калектываў у Беларусі — у Канцэртным аркестры „Няміга". Аднак у час размовы больш чым гэтым ганарыўся сяброўствам са Зміцерам Вайцюшкевічам, з якім вучыўся ў адной групе ў Мінскім інстытуце культуры.

На працягу цэлага ўік-энду ў Сухаволі гучала духавая музыка. Стала ўжо традыцыяй, што на пачатку ліпеня да гэтага невялікага гарадка з'язджаюць музыканты з цэлай Еўропы. „Еўрапарад" безупынна адбываецца з 2003 года. Варта ўспомніць пра саміх гаспадароў мерапрыемства, якія таксама карыстаюцца папулярнасцю ў Польшчы і па-за яе межамі. Хаця сухавольскі духавы аркестр існуе з 1956 года, гэта дырыжор Ежы Зданэвіч надаў аркестру больш прафесійнага характару, чаго вынікам былі


Духавы аркестр Добраахвотнай пажарнай каманды ў Канапісках (Польшча)

поспехі не толькі на польскай сцэне, але і ў шматлікіх краінах свету. Немагчыма іх усіх пералічыць, аднак варта адзначыць, што з 1990-х гадоў аркестр застаецца на чале польскіх аматарскіх духавых аркестраў. Сама ідэя „Еўрапарада" нарадзілася ў час фестывалю ў Францыі. Менавіта там у 1999 годзе сухавольскі аркестр атрымаў спецыяльны прыз журы. Той значны поспех быў штуршком для таго, каб у Сухаволі, якая больш за паўстагоддзя ганарылася духавым аркестрам, наладзіць сапраўднае свята таго жанру музыкі. Сёння „Еўрапарад" з'яўляецца адным з найбольш прэстыжных мерапрыемстваў, якое адбываецца ў гарадку.

— Мы ганарымся, што цягам двух дзён становімся музычнай сталіцай Падляшша, — сказаў бургамістр Сухаволі Міхал Матыскель. — Прыязджаюць сюды найлепшыя аркестры, якіх адначасова цешыць магчымасць выступу на нашым фестывалі. Кожны з іх мае свой непаўторны рэпертуар, які зазнаямляе нас з культурай дадзенай краіны. І сапраўды, можа ўдасца нам зрабіць з фестывалю шматкультурнае мерапрыемства, якое нагадвала б даўнюю Сухаволю.

Ужо традыцыйна „Еўрапарад" пачаўся маршам усіх аркестраў па вуліцах горада. На плошчы перад помнікам блаславёнаму Юры Папялушку прагучалі гімны Польшчы і Еўрасаюза. Згэтуль аркестры прайшлі вуліцамі гарадка на плошчу перад спартыўнай залай. Двухдзённыя канцэрты гэта не толькі класіка, але таксама аранжыроўкі джазавых твораў ці сучасных гітоў. У кульмінацыйны момант перад публічнасцю прэзентавалася каля 350 артыстаў, у тым 4 аркестры з Польшчы. Для іх саміх „Еўрапарад" гэта перш за ўсё непаўторная магчымасць, каб абмяняцца вопытам і завязаць новыя знаёмствы.

— Наш аркестр мае гэтае шчасце, што амаль ад пачатку прысутнічае на фестывалі, — сказаў саксафаніст аркестра з Парэчча Яўген Клачок. — Цягам чатырнаццаці гадоў я завязаў сяброўства з людзьмі з Сухаволі і прыязджаю сюды не толькі на добры музычны фестываль, але таксама беручы пад увагу іх саміх.

Міжнародны фестываль у Сухаволі з'яўляецца цыклічнай падзеяй, якая спрыяе папулярызацыі і пашырэнню цікавасці да музыкі ў выкананні духавых аркестраў. Акрамя таго гэта непаўторная магчымасць, каб праз музыку пазнаць культуру паасобных краін. „Еўрапарад" гэта нагода не толькі для міжнародных, але і міжпакаленных сустрэч. Той фестываль не мае характару спаборніцтва. Аркестры не сапернічаюць між сабою, толькі супольна праводзяць час, прадстаўляюць мастацкія дасягненні і паказваюць як цікавай і прыемнай можа быць музыка ў выкананні духавых аркестраў. Фестываль дае магчымасць вядзення музычнага дыялогу. „Еўрапарад", магчыма, стане новым культурастваральным фактарам. Здаецца, мястэчка, якое пасля вайны рэзка адцялося ад мінулага, дагэтуль мае праблему з уласнай гісторыяй і тоеснасцю.

Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ

## Праграма польскага ўрада 500-плюс на прыкладзе Орлі

118 мільёнаў злотых трапіла да гэтага часу ў падляшскія сем'і у рамках праграмы «500-плюс». Гаворка ідзе пра ініцыятыву польскага ўрада, у рамках якой штомесяц выплачваюць на другое і чарговае дзіця па 500 злотых. У гміне Орля заявы на выплаты падалі 99% сем'яў, — кажа кіраўнік мясцовага гміннага асяродка сацыяльнай дапамогі Марта Оса. — На сённяшні дзень пададзена 136 заяў, з якіх 99% было разгледжана пазітыўна. Мы выдалі больш за 300 тыс. злотых, пачынаючы з красавіка.

На гэты момант грашовую дапамогу ў рамках праграмы «500-плюс» у гміне Орля атрымліваюць 213 дзяцей. Да гэтай пары не было інфармацыі пра неналежнае выдаткоўванне сродкаў на тэрыторыі гміны:

— Калі такі сігнал да нас дойдзе мы будзем мяняць рашэнне. Яны не атрымаюць грошай на рукі, толькі ім аплацяць рахункі ці пакупку вопраткі.

Грошы на дзяцей гмінныя асяродкі сацыяльнай дапамогі выплачваюць з красавіка.

**Лукаш ЛЕАНЮК,**
Беларускае Радыё Рацыя

## Новыя расліны на беластоцкіх Плянтах

У Беластоку даволі многа зелені і яе яшчэ прыбывае. Сёлета прыбыло 207 маладых дрэўцаў, 5,5 тысячы дэкаратыўных кустарнікаў і чатыры тысячы іншых раслін. Саджанцы каштавалі магістрат 95 тысяч злотых.

У пачатку чэрвеня гэтага года паблізу става ў беластоцкім парку Плянты пасадзілі трыста дэкаратыўных кустарнікаў азаліі з белымі, жоўтымі, ружовымі і чырвонымі кветкамі, заўсёды зялёнага барвенку, які цвіце сінімі кветкамі, каліны, кізілу (derenia), белай, ружовай і чырвонай гартэнзіі, ігрі і плюшчу (мае ён цёмна-зялёнае зіматрывалае лісце ды семсот былін, між іншым, фіялетавага і жоўтага касача (ірыса) і іншых.

## Рэагуюць на крытыку

У „Ніве" № 25 ад 19 чэрвеня 2016 года быў надрукаваны мой крытычны допіс пад загалоўкам „Сцёртыя палосы трэба памаляваць". Быў я 29 чэрвеня г. г. у Гайнаўцы і ўбачыў свежа памаляваныя белыя палосы або інакш гарызантальныя дарожныя знакі на асфальтавых маставых, між іншым, на адной з галоўных вуліц горада — вуліцы 3 Мая. Якраз у канцы чэрвеня стаялі цёплыя і пагодлівыя дні і ночы і палосы можна было маляваць. Дарожныя службы хутка зарэагавалі на ніўскую крытыку і пачалі аднаўляць сцёртыя палосы ўсюды там, дзе ездзіць найбольш аўтамабіляў і дзе найбольш пешаходаў перасякае вуліцу.

**(яц)**

Фота Аляксандра Вярбіцкага



# Штогод прападае вёска!

### Даўней, як расказваюць пажылыя людзі, па вёсках было пуста, бо ўсе іх жыхары ішлі працаваць у поле. Зараз у Арлянскай гміне ў вёсках таксама пуста, і ў полі пуста. І гэта не нейкі сон.

Арлянская гміна займае плошчу ў 170 квадратных кіламетраў. У дваццаці двух салэцтвах, якія ахопліваюць дваццаць пяць мясцовасцей, у канцы мінулага 2015 года пражывала ўжо толькі 2967 асоб, у большасці пажылых людзей, а малалетніх (да 18 гадоў) было 415 душ (годам раней, у 2014 годзе пражывала 3010 асоб, у 1945 годзе гміна налічвала 10 064 асобы, а ў 1988 годзе ў самой Орлі было пад дзве тысячы жыхароў). З 1988 года лік насельніцтва гміны скарачаецца кожны год прыблізна на сто чалавек — гэта так, быццам за год прападала адна цяперашняя вёска.

Лік насельніцтва гміны скарачаецца таму, што паміраe амаль у дзесяць разоў больш асоб, чым нараджаецца. Можна нават сказаць, што людзі самі «спяшаюць» на той свет. Могільнікі разрастаюцца, напрыклад у Орлі людзі яшчэ пры жыцці займаюць сабе месцы для пахавання або трымаюць гатовыя намагільнікі ў часцях у сваіх уладаннях. Часам даходзіць да сварак, калі нехта паставіць помнік на забраніраваным іншай асобай месцы. Зараз кожны стараецца паставіць намагільнік з апрацаванага каменя, а хто багаты, той стаўляе большы помнік; мода на помнікі са шчэбеню мінула.

Мала асталося маладых людзей, таму і нараджаецца мала дзяцей. Паводле інфармацыі арлянскага загса сёлета (да 17 мая) нарадзілася шасцёра дзяцей, у 2015 годзе — 21, у 2014 — 23, у 2013 — 21, у 2012 —19, у 2011 — 22, у 2010 — 23, у 2009 —18, у 2008 — 35, у 2007 — 29, у 2006 —19, у 2005 — 22, у 2004 — 14, у 2003 — 21, у 2002 — 22, у 2001 — 25, у 2000 — 28, у 1999 — 18, у 1998 — 24 дзяцей. Маладыя людзі ўжо традыцыйна выязджаюць за працай за граніцу і там засноўваюць сем'і; або выязджаюць у горад. У гміне шмат асоб прапісаных толькі часова.

Людзі засноўваюць мала сем'яў, у галоўным па прычыне беспрацоўя; многія мужчыны пападаюць у алкагалізм. У мінулым 2015 годзе заснавалі сем'і 14 пар, у 2014 — 6, у 2013 —10. Ужо даўно ў будынку Гміннай управы скасавана зала шлюбаў і з чатырнаццаці год ёю карыстаецца войт.

У канцы 2015 года ў Арлянскай гміне пражывала 63 дзяцей ва ўзросце да двух гадоў, дваццаці ідзе трэці год, чатырох- і пяцігодкаў — 43, шасцігодкаў — 17 і сямігодкаў — 34. Паводле інфармацыі Гміннай управы ў 2015/2016 навучальным годзе ў арлянскім комплексе школ вучыцца 226 вучняў і адно дзіця па-за школай (у 2004 годзе было 256 школьнікаў). Родную беларускую мову вывучае 88 вучняў (60 у пачатковай школе і 28 у гімназіі): у першым класе вучыцца 26 вучняў (родную мову вывучае 9 вучняў; для параўнання: у 2013/2014 навучальным годзе ўсе першакласнікі пачатковай школы — 12 асоб — вывучалі беларускую мову), у другім класе — 33 (18), у трэцім — 13 (11), у чацвёртым — 15 (9), у пятым — 14 (4), у шостым — 13 (9). У гімназіі ў першым класе — 19 (6), у другім — 22 (12), у трэцім — 26 (10). У 2014/2015 навучальным годзе родную мову вывучала 86 вучняў (гэта 51,50%).

У 1976 годзе ў Орлі пражывала паўтары тысячы чалавек. У мястэчку 21 вуліца. Да салэцтва Орля належыць і прысёлак Антанова (8 жыхароў). Пры найбольшай з вуліц, Чырвонай Арміі (пры санацыі Пасвентна, а зараз людзі называюць яе вуліцай удавіц, бо па ёй пражываюць галоўным чынам адзінокія жанчыны), пражывае 180 жыхароў (на дзень 31 снежня 2015 года), у 2004 годзе жыў там 191 чалавек, у 2012 —193, а невялікая розніца вынікала з перасялення туды новых жыхароў звонку. Па вуліцы Міцкевіча пражывае 155 чалавек (у 2004 годзе 163), Бельскай — 107 (121), Кляшчэлеўскай — 95 (109)... Найменш людзей жыве па Спулдзельчай — дзве асобы, Вузкай — 3, Кароткай — 4, Кашалёўскай — 6, Канапніцкай — 8, Польнай і Ажэшкі — па 11...

З ліку 2967 жыхароў гміны 2571 паўналетні, а ў іх ліку 744 жанчыны, якім за 60 гадоў, ды 380 мужчын, якім за 65 гадоў. Непаўналетніх у гміне 399 асоб: 200 хлопцаў і 199 дзяўчат. У год нараджаецца каля дваццаці дзяцей, але невядома колькі з іх пойдзе ў мясцовую школу, бо многія маладыя сем'і перабіраюцца ў гарады.

**Паводле перапісу насельніцтва ад 5 студзеня 1945 года, тадышняя вялікая Арлянская гміна (якая ахоплівала м.інш. Дубічы-Царкоўныя, Чыжы, Галады) налічвала 10 064 асобы, у тым ліку 9832 беларускай нацыянальнасці. У тагачаснай управе вялікай гміны, як я даведаўся ў старажылаў, працавала толькі пяць асоб; і хапала. А цяпер (калі гміна ў тры разы меншая) працуе каля дваццаці асоб і ўсе яны маюць камп'ютары.**

Лік насельніцтва гміны прыбліжаецца да таго, які калісь быў у самой Орлі. У цяперашніх межах Арлянская гміна найбольш жыхароў налічвала ў 1988 годзе — 4 891 асоба (у самой Орлі жыло пад дзве тысячы чалавек), але ўжо дзесяць гадоў пазней, у 1998 годзе амаль на тысячу менш — 3967 асоб, а годам да таго яшчэ 4091 чалавек. Лік насельніцтва надалей скарачаецца: у 2002 годзе было 3744 душ, у 2003 — 3690, у 2004 — 3618 (дзесяць гадоў раней, у 1994 годзе — 4688), 1 студзеня 2005 года — 3636, 2006 — 3542, 2007-3478, 2008-3423, 2009 — 3374, 2010 — 3306, а ў канцы гадоў: 2011 — 3130, 2012 — 3072, 2013 — 3058, 2014 — 3033, 2015 — 2967 жыхароў.

Найбольшай мясцовасцю гміны астаецца сама Орля, у якой на канец 2015 года пражывала 906 жыхароў. Чарговай з'яўляюцца Кашалі — 238 (у 2006 годзе было 277), Малінікі — 184 (230), Крывятычы — 154 (180), Дыдулі — 152 (173), Міклашы — 121 (151), Рыгораўцы — 123 (153), Вулька-Выганоўская — 111 (130), Градалі — 104 (134), Пашкоўшчына — 106 (126), Шчыты-Навадворы — 103... Найменшыя зараз Баранаўцы-Каленія — 2, Антанова — 8, Алекшы — 11, Круглае — 12, Паўлінова — 17, Чахі-Забалотныя — 20, Москаўцы — 21, Вулька — 24 душы...

У Арлянскай гміне было дагэтуль многа сужонстваў, якія пражылі разам больш за паўвеку. У мінулым, 2015 годзе, гэты юбілей адзначалі 8 пар, у 2014 —16, у 2013 — 10, у 2012 — 19, у 2011 — 13, у 2010 і 2009 — па 18, у 2008 — 17, у 2007 — 18, у 2006 — 23, у 2005 —18, у 2004 годзе 19 пар.

У Польшчы пражывае каля дзвюх тысяч асоб, якім за сто гадоў, найбольш іх у Падляшскім ваяводстве. Арляне рэдка даязваюць такога ўзросту. У пасляваенны перыяд 102 гады пражыў Пятро Кубаеўскі з Орлі, а 17 мая 2006 года памерла Параскева Яфімчук з Москаўцаў у такім жа ўзросце; зараз да такіх гадоў набліжаецца Вольга Дэмбарук з Орлі.

Шмат у гміне асоб, якім перавалiла за восемдзесят і дзевяноста гадоў. У народзе гаворыцца, што першая старасць доўжыцца ад шасцідзесяці да сямідзесяці пяці гадоў жыцця, пасля ўжо — даўгавечнасць. Спытаў я пра гэта старажылаў.

Мікалай Багацэвіч з Орлі: — Калісь не было медыцыны, дактароў. Мая свячка мела сорак гадоў і памерла ад апендыцыту.

Вольга Рэнгайла з Орлі: — Бацька расказваў, што было вось такое лячэнне: на жывот клалі пусты збан быццам з гарачым паветрам.

Вера Назарэвіч з Орлі: — Калісь ва ўзросце 64 гадоў чалавек ужо толькі на лавачцы сядзеў, быў зморшчаны, адчуваў сябе старым. Калісь якая была яда? Толькі таўканіца, суп з капустай, шклянка малака. І гэта ўсё. А сення? Сёння заўсёды нешта знойдзецца, каб бутэрброд з'есці.

Аліцыя Шчэпаноўская, мясцовая сямейная лекарка: — Зараз людзі жывуць даўжэй, бо прывыклі прымаць лекі. Колькі я пераконвала пацыентаў, калі працавала ў Дубічах-Царкоўных, каб прымалі лекі. Але тады не было гэтага ў модзе.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

Фота Міры ЛУКШЫ

# Беласток
## у масцы мультыкультуралізму?

Трэцяе спатканне з цыкла «Зразумець Беласток», сарганізаванае доктар Данутай Завадскай, доктар Кацярынай Нізёлак і Кацярынай Савіцкай-Мяжынскай прайшло 30 чэрвеня ва Універсітэцкім культурным цэнтры на кампусе Універсітэта ў Беластоку па вул. Цыялкоўскага. Прадметам абмеркавання быў мультыкультуралізм, і ўдзел у ім, між іншым, прынялі Гражына Харытанюк-Міхей, Артур Канапацкі, Анджэй Садоўскі, Кацярына Сергей, Ежы Шаршуновіч, Моніка Шэўчык, Матэвуш Тымура і Іаанна Зубрыцкая.

Разважанні засяроджваліся на пытаннях, якія краналіся і на папярэдніх сустрэчах з гэтага цыкла, вакол якіх заснавалася гутарка. Здаецца, што ў сферы грамадскага абмеркавання ўсё часцей можна сустрэцца з пазіцыяй, што мультыкультуралізм Беластока з'яўляецца проста прыгожай маскай, якая мае зманліва пакрыць сваю адмову: бяспамяцтва пра габрэяў, спрэчку пра салдат праклятых, акты нецярпімасці ў дачыненні да геяў і лесбіянак, адбой ад траўматычнага вопыту нацыянальных меншасцей, у тым ліку беларускай, прыклады неаб'ектыўнай гістарычнай палітыкі гарадскіх улад, якія аддаюць перавагу традыцыі большасці, польскай і каталіцкай, часткі беластоцкага культурнага і рэлігійнага плавільнага катла, для якой непарушным сімвалам аказаўся лозунг «Бог, Гонар, Айчына». Падобныя здарэнні і дзеянні сапраўды маюць месца, многія з іх выклікаюць трывогу. Але ці гэта доказ існавання ў Беластоку выключна «буклетнага мультыкультуралізму» (тэрмін Кацярыны Штоп-Руткоўскай), які не суправаджаецца ні грамадскай свядомасцю адрозненняў, ні пажаданай адкрытасцю ў асяродзях ствараючых узоры (як акадэмія ці культурныя ўстановы), ані адабральнай палітыкай — ці гэта хутчэй выраз

**утапічнага разумення**

мультыкультуралізму? Такая ўява пра яго — заснаваная на здагадцы аб бясконцай адкрытасці і безумоўным адабрэнні — магла б мець сэнс існавання ў прасторы абыякавай з пункту гледжання мовы, культуры і рэлігіі, якія часам складаюць цэнтры і метраполіі, але не ў памежжы. Тут канфлікт памяці і лаяльнасці з'яўляецца з'явай настолькі звычайнай, як і «нармальнай», эсенцыялісцкае мысленне (адна мова, адна нацыя, адна рэлігія) большасці і меншасці стымулююць сябе ўзаемна, грамадская прастора часам бывае полем бітвы за ўвекавечанне ўласных герояў. Пытанне аб мультыкультурнасці, як правіла, схільвае таксама задумацца над станам большасці, чаму ўвагу надае між іншым Арджун Ападурай, які паказвае на тое, што страх перад меншасцямі можа мець звышнацыянальныя, звышмясцовыя крыніцы, як, напрыклад, характэрнае для эпохі глабалізацыі пачуццё нявызначанасці і адсутнасці ўплыву на ўласнае жыццё (напрыклад, вызначанае сусветнымі карпарацыямі і трансгранічным пераплывам міжнароднага капіталу). Тым больш, што ў Беластоку на няўпэўненасць гэтай большасці таксама аказваецца ўплыў на мясцовым узроўні — грамадства горада здаецца яшчэ быць не вельмі стабільным і не цалкам свядомым у сабе тварэннем Другой сусветнай вайны і Халакоста, «праспанай рэвалюцыі» (як Анджэй Ледэр назваў пасляваеннае сацыяльнае павышэнне з сяла ў горад), іншых міграцый, асіміляцыі. З іншага боку, варта адзначыць, што асноўным механізмам дэмакратыі з'яўляецца не толькі кансэнсус, але і спрэчка, а дэмакратычная прастора ў грамадствах разрозненых у сацыяльным і культурным стаўленні, прыгадвае хутчэй агонію, а не агору. Таму мэтазгодным уяўляецца пытанне, ці паміранае ў ідэальны спосаб і дасканалае гарманічна грамадства наогул магчымае. Справа таксама ў тым, каб

**«буклетных» палітычных дзеянняў**

не ідэнтыфікаваць з паўсядзённым жыццём грамадзян і іх — найбольш рэальным — вопытам памежжа, каб утопіі, якой фігурай стала ў Беластоку постаць і праца Людвіка Заменгофа, не разглядаць у якасці датчыка эфектыўнага дыялогу паміж людзьмі і культурамі.

Таму краналіся наступныя пытанні.

У сродках масавай інфармацыі і паўсядзённай дыскусіі тэрмін «мультыкультуралізм» выкарыстоўваецца даволі свабодна ды шырока. Анджэй Садоўскі ў сваіх працах вялікую ўвагу прысвячае падкрэсленню падзелу на дзве катэгорыі: культурную разнастайнасць і мультыкультуралізм. У чым розніца паміж гэтымі катэгорыямі і адпаведнымі ім грамадскімі рэаліямі? Ці ў Беластоку і на Падляшшы мы маем справу з культурнай разнастайнасцю, ці мультыкультуралізмам?

Ці з'яўляецца культурная разнастайнасць / мультыкультуралізм нашым

**багаццем, рэсурсам ці баластам,**

ці з'яўляюцца патэнцыйнай крыніцай праблем і канфліктаў?

У дыскурсе пра мультыкультурнасць гэтая катэгорыя часта спалучаецца з такімі словамі, запазычанымі з мовы маркетынгу, як: буклет, буцік, імідж, капітал і г. д. Ці мультыкультуралізм у сучасным свеце павінен аплачвацца, прыносіць выгоду? Ці можам мы гаварыць / думаць пра мультыкультурнасць інакш, чым як пра меркантыльную здзелку?

Візуальны мастак Павел Альтхамер аднойчы сказаў, што туды, дзе адбываюцца спрэчкі, канфлікты, войны трэба адпраўляць артыстаў. Сучаснае мастацтва і літаратура часта і па-рознаму (ад дыскурсу да перформансу) адносяцца да культурнай разнастайнасці / мультыкультуралізму. Ці такім чынам яны ўносяць уклад у развіццё мультыкультурнага грамадства? Якога роду «мадэль» мультыкультуралізму выяўляецца з мастацкага, літаратурнага твора?

Многія людзі проста

**баяцца іншасці / чужасці,**

якой сучаснымі фігурамі з'яўляюцца імігранты, мусульмане, тэрарысты. Ці маем мы права на страх? Ці, у гэтым кантэксце, ідэя мультыкультуралізму не з'яўляецца сродкам для кантралявання гэтага роду эмоцый, накіроўвання ў адно рэчышча страху не толькі меншасці супраць большасці, але і большасці супраць меншасці?

Што ва ўмовах мультыкультуралізму абазначае супольнасць? Ці свет разнастайны ўнутрана можа быць светам агульным, супольным? Якое бачанне мультыкультурнай супольнасці (аднаго супольнага музея, адной агульнай адукацыі і г.д.) не ёсць бачаннем большасці? Ці, з другога боку, аўтаномія ўстаноў і сацыяльных прастор (наша — ваша) не абмяжоўвае сувязі, не ўзмацняе сепарацыі?

Здаецца, што ў Польшчы ў гаворцы / думцы пра мультыкультурнасць (як штодзённых, так і навуковых) па-ранейшаму дамінуюць катэгорыі «этнічнасці» і «рэлігійнасці». Ці ў сучасным свеце ўсё яшчэ мае сэнс гаворка аб мультыкультурнасці толькі ў такіх катэгорыях? Ці ў Польшчы выступае з'ява падобная да амерыканскай «барацьбы за прызнанне»? Як сёння разумеем паняцце «меншасці»?

Ці, аналізуючы прычыны «праблем з мультыкультуралізмам», мы павінны прымаць да ўвагі выключна / перш за ўсё лакальны кантэкст (рэгіянальную гісторыю, памяць), ці, дакладней, услед за аналізам Арджуна Ападурая, прыглядвацца ім з глабальнай перспектывы, як да адной са з'яў сучаснага свету, якія вызначаецца, між іншым, глабалізацыяй і постсучаснасцю?

Да дыскусіі запрашаем таксама чытачоў.

(лук)

## „Семяноўская чайка" лунала над Масевам

Жыхары Старога Масева Нараўчанскай гміны шануюць традыцыю і адзначаюць свята ў гонар св. Ануфрыя. Сёлета арганізавалі народны фэст дзеля вялікай гады ў суботу, 25 чэрвеня, каля мясцовай святліцы. Стаяла вельмі цёплае, сонечнае надвор'е. Над ціхім пушчанскім сялом лёталі буслы. Мне прыгадалася, што гэтак было і ў мінулыя гады. Сядзелі мы з сябрам Мікалаем Варанецкім на лавачцы і слухалі канцэрт. А буслы пад вечар лёталі і лёталі.

Пабачыць выступленні мастацкіх калектываў прыехалі жыхары з многіх вёсак, між іншым, з Альхоўкі, Замоша, Гушчэвіны, Нараўкі, Новага Ляўкова, Старога Ляўкова, Семяноўкі, Свінароя і Янова.

На сцэне ў Старым Масеве гучалі перш-наперш беларускія песні, але былі і польскія, і ўкраінскія песні. Канцэрт вяла Кася Бяляўская, інструктарка нараўчанскага асяродка культуры. Спявалі і радавалі публіку калектывы „Калінка" і „Вясна" з Беластока, „Цаглінкі" са Старога Ляўкова (сёлета яны будуць святкаваць 40-годдзе сваёй мастацкай дзейнасці), „Нараўчанкі" з Нараўкі і не часты выступовец на фэстах „ЯБМ" з Сухавольцаў каля Кляшчэль, пад кіраўніцтвам Янкі Беляўца. Было што паслухаць. „Цаглінкі" выдатна праспявалі, між іншым, песню „Семяноўская чайка"

„Цаглінкі" са Старога Ляўкова

на словы Мікалая Варанецкага з Альхоўкі (ён выступае разам з „Нараўчанкамі"). Беларускія песні прыгожа спявалі „Нараўчанкі". У перапынку між песнямі сатырычны верш пра п'яніц дэкламаваў член калектыву „Нараўчанкі" Ян Казбярук. Варта дадаць, што ў Новым Масеве і ў Старым Масеве (пражывае ў гэтых вёсках 112 чалавек) песні вельмі любяць і ахвотна спяваюць.

Беларускі фэст уж традыцыйна арганізавалі Гмінная ўправа і Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы ды жыхары вёскі Старое Масева. Вялікую сцэну і лавачкі прывезлі з Нараўкі. Пра іх паклапаціліся гмінныя ўлады. Месца на лавачках хапіла для ўсіх прысутных.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## Запрашэнне да конкурсу

Таварыства сяброў Нараўчанскай зямлі запрашае ўсіх ахвотных да ўдзелу ў конкурсе пад загалоўкам „Ах, што гэта быў за шлюб! — вясельныя абрады і абычаі ў Нараўчанскай гміне". Рэпартажы, інтэрв'ю і фотаздымкі можна дасылаць да 30 ліпеня гэтага года ў Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы (адрас: ГАК, 17-220 Нараўка, вул. Новая 3 А).

За дэталёвай інфармацыяй можна звяртацца ў бібліятэку ў Гмінным асяродку культуры — да бібліятэкаркі Анны Стульгіс (яна член праўлення ТСНЗ): нумар тэлефона да яе 85 685 80 34, у гадзінах працы бібліятэкі ад 10 да 18 у працоўныя дні.

**(яц)**



зорка
для дзяцей і моладзі

Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# Каларытнае развітанне са школай

(пачатак у 25 н-ры «Зоркі»)

Выступлення «Балуматаў» чакалі ўсе госці. Гэта быў ужо «канікулярны» матыў, які думкамі заклікаў на рок-фестываль «Басовішча». Прыгадайма, год таму вучні «чацвёркі» развучылі гіты такіх гуртоў, як «НРМ», «Ляпіс Трубяцкі», «Крама», «0-85»... І разам з кумірамі, такімі як Лявон Вольскі ці Юрка Асеннік, выступілі на сцэне ў Барыку. У такі спосаб дзеці і моладзь засвоілі найбольш вядомыя беларускія шэдэўры. У час, калі ўсе карыстаюцца смартфонамі (дзе высветлены словы песень), беластоцкі выклік здаваўся яшчэ больш каштоўным і жывым. Дык не дзіва, калі ў тэатры нашы «Баламуты» (разам з Паўлам Азяблам) грымнулі



«Баламуты»

«Тры чарапахі», усе падхапілі культавы шэдэўр і спявала ды танчыла ўся зала... Вядома, усё назіралі і ўбіралі ў сябе малодшыя «Баламуткі» — школьны гурт пад кірункам Кірылы Ліпая. Яны ў сваю чаргу парадавалі такімі шэдэўрамі, як «Туман ярам».

У ходзе мерапрыемства былі названы лаўрэаты II Фестывалю беларускай песні. Першыя месцы заваявалі Юлія Алексяюк, Каліса Пятроўская, Аляксандр Здрайкоўскі, дуэты Марыся Пякарская і Давід Алексяюк ды Сара Скаўронская і Юлія Сасна.

Публіка паглядзела яшчэ дзве тэатральныя п'есы «Рыцар без каня» і «Хто сказаў „мраў”».

Не менш уразіў развітальны ліст, які ад імя ліцэістаў зачытала выпускніца трэцяга ліцэя Дар'я Вапа. Гэта быў найпрыгажэйшы слоўны вянок у адрас настаўніцы Аліны Ваўранюк і сяброў аб'яднання АБ-БА. Моладзь памятала пра такія важныя і незабыўныя хвіліны, як падарожжа з «Падляшскімі хронікамі» ў ЗША.

ЗОРКА

# Экскурсія ў Рэспубліку Беларусь



*У канцы навучальнага года вучні нараўчанскай школы, якія вывучаюць беларускую мову, паехалі на экскурсію ў Рэспубліку Беларусь. Усе раніцай сустрэліся ля школы і на школьным аўтобусе паехалі ў Белавежу.*

*Калі апынуліся на беларускай старане, нас ужо чакаў аўтобус, які завёз нас у сядзібу беларускага Дзеда Мароза. У варот прывітала нас сястра Бабы Ягі. Яна нам расказвала пра розныя рэчы, спявала, вадзіла з намі карагоды. Дзякуючы ёй мы наведалі Дзеда Мароза, хаця не маглі ўвайсці ў яго хату. На шчасце гэта быў беларускі Дзед Мароз, бо размаўляў на мове, якой мы вучымся і яго разумелі нават малышы. Смешна было, калі сястра Бабы Ягі завяла двух нашых сяброў (сваіх зяцёў — Рафала і Бартка) у сваю хату і здзівілася, што мы згодныя ёй іх пакінуць. Чаго ж не робіцца дзеля таго, каб хлопцы не былі старымі кавалерамі.*

*Вучні вельмі цешыліся з гэтай сустрэчы, бо зрабілі здымкі і атрымалі падарункі.*

*Потым мы наведалі вёску Камянюкі, дзе пабачылі Музей прыроды. Цікавымі для нас былі таксама абмен валюты, а потым пакупкі сувеніраў і цукерак у мясцовым магазіне.*

*Нашы наймалодшыя сябры з другога класа не ўсё разумелі (бо яны не вывучаюць яшчэ рускай мовы), але былі адважныя, паслухмяныя і не разгубіліся ў магазіне.*

*Гэта была вельмі цудоўная экскурсія. Мы ведаем, што ў наступным годзе зноў паедзем у Беларусь, але ўжо далей і на крыху даўжэй.*

**Уля МАРЧУК**, *Нараўка*

## Вершы Віктара Шведа



### Агрызнуўся

Мама сыночка лае
— Чаму пазногці абгрызаеш?
Маўчыць зусім сыночак —
Мама дакучыць хоча.

— Дурнота розум з'ела, —
Мама сказала смела.
— І пазногці таксама
Яна мне з'ела, мама.

### Маркоўка ці пятрушка?

Уля ў агародзе
З матуляю ходзіць.
— Я маркоўку, матуля,
Знайшла, — кажа Уля.

— Дык гэта ж, дачушка,
Напэўна пятрушка.
— Маркоўка няспелая,
Таму яшчэ белая.

## Загадкі з роднай хаткі

УВАГА КОНКУРС!
№ 28-16

**Чмыхнуў чмель:**
**— Мае вы дзеткі,**
**Не шукайце**
**Лепшай кветкі.**
**Тая,**
**у бэзавай спадніцы,**
**Мёдам пахне —**
**М.......**

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 17 ліпеня 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадкі № 24-16: сенакос. Узнагароду, каляровыя алоўкі, выйграла Малгажата Галёнка з Арэшкава. Віншуем!**

# Сілу даюць родныя месцы, прырода, людзі!

## Гутарка з Яўгенам Вапам, галоўным рэдактарам «Нівы».

**„Зорны шлях”: — Як Вы сталі журналістам? Ці Вы таксама спачатку пісалі ў „Зорку”?**

**Яўген Вапа:** — Так, калі я быў у шостым, сёмым класе, я напісаў два або тры тэксты ў «Зорку». Мяне ўцягнула рубрыка «Пазнаёмімся». Дзякуючы ёй можна было перапісвацца з аднагодкамі з нашых школ і цэлага СССР. Я падумаў, каб напісаць хлопцу з-пад Бельска. А ён адпісаў, што не будзе перапісвацца з нейкім хлопцам ад Гайнаўкі, яго цікавіў нехта з Савецкага Саюза. Так што мая спроба закончылася поўнай паразай.

Калі я вучыўся ў гайнаўскім белліцэі, чытаў „Зорку”, але тады не пісаў допісаў. У чацвёртым класе я пачаў свае першыя паэтычныя спробы. У студэнцкія гады разам з сябрамі мы стварылі беларускі часопіс „Сустрэчы” і старонку „Прысутнасць” у „Ніве”. Пасля, калі я працаваў настаўнікам у сваім ліцэі, тады таксама пісаў карэспандэнцкія допісы.

**ЗШ: — Ці кіраванне газетай і праца журналіста займае Вам увесь свабодны час? Ці маеце час на іншыя справы, на хобі?**

**ЯВ:** — Так, я вельмі люблю чытаць кніжкі і слухаць музыку. Па суботах і нядзелях я шукаю ў інтэрнэце музыку, якая мне падабаецца. Я вялікі паклоннік чытання. Ад наймалодшых гадоў да гэтай пары цвёрда чытаю кніжкі. Цікаўлюся спортам. (Калісь марыў стаць спартсменам, гуляў на панадворку з сябрамі ў футбол, ездзіў на роварах). А цяпер, калі маю магчымасць чытаць, слухаць музыку, глядзець кіно — дык гэта ўжо вельмі добра.

**ЗШ: — Ці праца не перашкаджае ездзіць у Беларусь?**

**ЯВ:** — Праца не перашкаджае, наадварот, працуючы ў „Ніве” ці на Радыё Рацыя трэба ездзіць у Беларусь. Гэта маральны абавязак! Гэта духоўнае падарожжа. На жаль, пасля прыходу да ўлады Аляксандра Лукашэнкі мы не маем упэўненасці ці без праблем уедзем у Беларусь. Гэта дрэнна, меншасць заўсёды ёсць найлепшым амбасадарам. Нам было б нашмат прасцей захоўваць у сабе беларускасць, калі б Рэспубліка Беларусь была не толькі беларускай з назвы, але і па духу. Тады было б лягчэй падтрымліваць кантакты з сябрамі, якія размаўляюць па-беларуску. А сёння здарылася ўжо такое: сустракаюцца няведаючыя роднай мовы беларус з Польшчы і беларус з Рэспублікі Беларусь і між сабою пачынаюць размаўляць па-англійску. Бо наша моладзь ужо не ведае таксама і рускай мовы. А польская — чужая для беларусаў з Беларусі.

**ЗШ: — Ці месца, дзе Вы нарадзіліся, і дзяцінства паўплывалі на тое, што Вы робіце ў жыцці важную справу, развіваеце беларускую ідэю?**

**ЯВ:** — Кожны чалавек мае свае родныя мясціны, краіны. Яны даюць нам сілу для жыцця і дзеяння. Мне родныя месцы памагаюць па сённяшні дзень. Гэта прырода, гэта людзі, якія ўмелі выказвацца трапна, разумна. Калі аглянуцца ў глыб пакаленняў, нашы дзяды былі самымі лепшымі каментатарамі жыцця.

**ЗШ: — Што нам рабіць, каб у будучыні стаць журналістамі?**

**ЯВ:** — Працаваць на Сустрэчах „Зоркі”, чытаць кніжкі і дасылаць карэспандэнцыі ў „Зорку”. Калі не пішам, хаця і многа чытаем, то нічога з гэтага не атрымаецца. Можам вывучыць усе законы, усе мовы, але калі не пішам, гэта не спрацуе. Тэхнічнае вывучэнне мовы не абазначае, што ўмееш пісаць на гэтай мове. Там няма родных вобразаў і эмоцый. А каму такая сухая пісаніна патрэбная?!

*(Запісалі* **Уля МАРЧУК** *і* **Наталля ВАСЬКО**, *„Зорны шлях”)*

## Конкурс з «Нівай»

**1. Хто галоўны рэдактар «Зоркі»?**
- **а) Іаанна Марко,**
- **б) Ганна Кандрацюк-Свярубская**
- **в) Уля Шубзда**

**2. Хто аўтар кніжкі «Жывінкі з глыбінкі»?**
- **а) Міра Лукша**
- **б) Ян Тарасевіч**
- **в) Дыяна Нахіла**

**3. Дзе нарадзілася першая «Зорка»?**
- **а) у Полацку,**
- **б) у Беластоку**
- **в) у Міхалове**

**4. Калі быў выдадзены першы нумар «Нівы»?**
- **а) 1970**
- **б) 1956**
- **в) 1710**

**5. Хто з'яўляецца галоўным рэдактарам «Нівы»?**
- **а) Наталля Васько**
- **б) Максім Фіёнік**
- **в) Яўген Вапа**

**6. Ян Тарасевіч быў:**
- **а) кампазітарам**
- **б) рэдактарам «Нівы»**
- **в) журналістам**

**(Адказы дашліце ў «Зорку» да 1 верасня 2016 г.)**

**Конкурс прыдумалі Вераніка Кардзюкевіч і Агнешка Зданоўская, рэд. «Зорнымі вачыма».**

Вераніка Кардзюкевіч, рэд. «Зорнымі вачыма»

## Зорка

**Кожную ноч гляджу на Цябе,**
**Зорка Венера...**

**Люблю я Цябе.**
**Ты заўсёды дапамагаеш мне,**
**Зорка Венера...**

**Ты — маё шчасце, натхненне,**
**Зорка Венера.**

## Польска-беларуская крыжаванка № 28-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 24:**
Фільм, міг, мора, кат, гай, тур, морква, Ас, галка, гуркі, на, сказ, ох, фота, аса. Тата, фікус, Ігар, густ, марка, голка, маркіз, бойка, но, чарапаха.

Узнагароды, каляровыя алоўкі, выйгралі **Мартына Лукша** з Нараўкі і **Вікторыя Гаць** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

Lato, Swojak, Wół, Szal, Skakanka, Ona, Len (zdrobniale), Talia, Motywacja, Stół, Zmęczenie, Jak, Styl, Fiał, Tam, Kot, Fa (nuta), Jazda, Stożek, Ił, Om, Ostap, Jak, Koło

# Дзень Святой Тройцы на Мельніцкай зямлі

**Асяродак гісторыі Мельніцкай зямлі стаў месцам, дзе пранікнуў дух Палесся. Якраз там 19 чэрвеня, у дзень Святой Тройцы адкрылася выстава народнага мастака Івана Супрунчыка з Цярэбліч, што ў Берасцейскай вобласці.**

— Я вырашыў запрэзентаваць свае скульптуры і рысункі якраз у Мельніку, каб паказаць набліжанасць характару беларускіх народных абрадаў ды наогул традыцый Палесся і Беласточчыны, — кажа мастак. — Аналагічныя для Беласточчыны і беларускага Палесся абрады тычацца трох этапаў у жыцці чалавека: нараджэння, вяселля і смерці. Важнымі элементамі абрадаў, якія з'яўляюцца нашай супольнай спадчынай, ёсць хлеб, агонь і вада — яны прысутнічаюць у жыцці пастаянна. Хаця б на аснове гэтага можна палічыць, што Палессе і Беласточчына — адзін рэгіён, які ў выніку палітычных абставін раздзяліла мяжа. Мы можам яе бурыць, наведваючы адзін аднаго, чаго прыкладам з'яўляецца мая выстава якраз тут — у Мельніку на ўсходнім Падляшшы.

У працах, якія складаюць выставу, акрамя абрадавых можна ўбачыць таксама рэлігійныя матывы. Напрыклад, скульптуры з выявай Ісуса Хрыста, які ўзносіцца ў неба па-над апосталамі. На рысунках можна прыкмеціць, між іншым, вясельныя абрады, на якіх паказаныя сем'і маладых, сваты. Важнае месца займае таксама каравай.

Выстава палескага мастака — эфект шматгадовага і плённага супрацоўніцтва Музея малой бацькаўшчыны ў Студзіводах з Асяродкам гісторыі Мельніцкай зямлі.

— Выбар Мельніцкай зямлі на прэзентацыю творчасці Івана Супрунчыка быў нечым накшталт абавязку, — кажа дырэктар Студзіводскага музея Дарафей Фіёнік. — Гэта адзін з найбольш выдатных народных беларускіх мастакоў. Ён не творыць сваіх прац на заказ ды не дзеля гэтага, каб паказаць наколькі высокую адукацыю мае мастак, які ў яго званні. Можна сказаць, што ягоныя працы з'яўляюцца люстэркам народу, сярод якога ён жыве. Гледзячы скульптуры і рысункі аўтарства Івана Супрунчыка, чалавек адчувае, што яны яго ўцягваюць у сябе. Не ў выпадку ўсіх, нават самых выдатных ма-



Іван Супрунчык



«На таку»

стацкіх прац, можна нешта такое адчуць.

— Я лічу, што працы беларускага мастака гэта эфект ягоных вельмі глыбокіх назіранняў, — лічыць наведвальніца выставы. — Мушу адначасова сцвердзіць, што ягоныя рысункі і разьба — разборлівыя і ў мяне няма праблемы з іх інтэрпрэтацыяй.

— Гэта не проста музейныя экспана-



«Дзятлавіцкі пралесак»

ты, а ўдакументаванае жыццё, — кажа адзін з наведвальнікаў. — На працах нарысавана ды высечана ўсё тое, што прадстаўляюць розныя перыяды, сітуацыі, якія сустракаюць чалавека ў яго зямной вандроўцы. Гэта простыя працы толькі прытворна, бо насамрэч у іх асаблівая глыбіня.

Падчас адкрыцця выставы прац Івана Супрунчыка гучалі песні ў выкананні калектыву «Дзятлавіцкі пралесак» з Дзятлавіч, што на беларускім Палессі, студзіводскай «Жэмэрвы» і менскага народнага калектыву «На таку». Даўжэйшыя выступленні ўсіх калектываў можна было пагдядзець у аддаленым на больш за 10 кіламетраў Вілінаве. У гэтай вёсцы Мельніцкай гміны праходзіў штогадовы «Сямейны фэст з нагоды Зялёных святкаў», вядзены харызматычным солтысам Яўгенам Высоцкім. Мерапрыемства сабрала жыхароў Вілінава ды ваколіц. Па іх словах, як дзень Святой Тройцы, так і фэст мае для іх асаблівае значэнне:

— Як мерапрыемства, так і свята для нас з'яўляюцца важнымі элементамі тутэйшых традыцый. Апрача рэлігійнага вымярэння дзень Святой Тройцы асацыюецца нам з музыкай беларускіх народных калектываў з Беласточчыны і Палесся, якіх можам паслухаць якраз у рамках фэсту. Як жыхары Мельніцкай зямлі можам смела сцвердзіць, што прыцягваюць нас песні выконваныя гэтымі калектывамі. Такія музычныя творы калісьці гучалі ў душах нашых продкаў, сёння весяляць і нас.

— Кожны раз, калі наведваем Падляшша, адчуваем, што мы не па-за домам, а якраз у гэтым жа самым месцы, — кажа мастацкая кіраўнік калектыву «Дзятлавіцкі пралесак» Галіна Брэзіна. — Ёсць такое адчуванне, што гэта проста гульня ў хаце. Тыя ж людзі, перад якімі мы прэзентуем свае песні, быццам суседзі з аднай вясковай вуліцы. Мы праспявалі ім абрадавыя песні, звязаныя з народнай традыцыяй «вядзення куста», што адбываецца якраз у дзень Святой Тройцы. Варта адзначыць, што гэтая традыцыя на Палессі засталася, яна аўтэнтычная і жыве.

— Мы зайгралі «Вясельны вальс», які іграюць на Астравеччыне і Мядзельшчыне, — кажа Ігар Жаўткоў з менскага калектыву «На таку». — Другой выкананай намі песняй была полька «Рабі, што хочаш», з Астравецкага раёна, дзе насамрэч жыў дзед дудара з нашага калектыву, які тую песню ведаў з дзяцінства. Я іграў на інструменце, які ў адных раёнах Беларусі завецца «качалка», а ў іншых «пранік». Раней ён выкарыстоўваўся ў якасці праса для бялізны, сёння я на ім іграю. У нашым калектыве намнога больш чалавек, але з-за візавых прычын не ўсе змаглі прыехаць на Мельніцкую зямлю.

Традыцыя святкавання дня Святой Тройцы ў Вілінаве свой пачатак бярэ ад асаблівых падзей у жыцці Мельніцкай зямлі.

— Існуе дакумент з 1610 года, — кажа сябра Музея малой бацькаўшчыны ў Студзіводах Тамаш Суліма, — у якім згадваецца аб карагодзе зладжаным жыхарамі Мельніка з нагоды Тройцы. Мясцовыя праваслаўныя вернікі танцавалі і спявалі на вуліцах мясцовасці. Гэтыя дзеянні былі прычынай скаргі ў мясцовы суд, паколькі не кожны з жыхароў Мельніка энтузіястычна ставіўся да карагоду з гульнямі якраз у час свята. Але ўсё ж такі тыя традыцыі прадаўжаліся, што ў жыхароў Мельніцкай зямлі і пакінула меркаванне аб асаблівасці дня Святой Тройцы. Варта адзначыць, што свята мае таксама іншыя назвы: Пяцідзясятніца, Сашэсце Святога Духа на апосталаў, але ёсць месца на Падляшшы, дзе троіцкае свята завуць Клечаннем.

Тэкст і фота Мацея РАЦІНЕЎСКАГА

# 35 год з песняй

— Было гэта ў 1979 годзе, — пачынае ўспамін Анна Бацюк, удзельніца пеўчай групы з Чаромхі-Сяла. — З канцэртам у вёску прыехалі самадзейнікі з Рагач, якіх суправаджалі Міхась Вішанка і Янка Крупа. Не памятаю, што гэта быў за канцэрт: сцэнічная пастаноўка, а можа выступ вакальнай групы? Мерапрыемства праходзіла ў пачатковай школе, бо не было святліцы. Канцэрт спадабаўся. І ўзнікла ідэя, каб у нас арганізаваць самадзейны калектыў. Гэтую думку кінула старшыня Гуртка вясковых гаспадынь Люба Салінская. Падтрымку аказалі сяброўкі з прыхадскога царкоўнага хору. Было іх восем: Люба Салінская, дзве Анны, Марыя і Лідзія Кердалевічы, Вера Панасюк, Надзея Унучка і я. Пачаліся рэпетыцыі, — працягвае Анна Бацюк. — У падрыхтоўцы праграмы дапамагалі Янка Крупа і настаўніца Галіна Саўчынская. Упершыню выступілі 15 лютага 1981 года на Фестывалі «Беларуская песня» ў Беластоку. У катэгорыі фальклорнай песні сола выступіла Анна Кердалевіч і заняла III месца. Такое ж месца журы прызначыла дуэту ў складзе Анна Кердалевіч і Анна Бацюк. Тры месяцы пазней выступілі мы перад мясцовай публікай з абрадавай сцэнкай «Прадкі» (так у наваколлі называлі вясковыя вячоркі, пакудзелле — У. С.). Гумарыстычная сцэнка спадабалася публіцы, бо ўсё адбывалася быццам у прамым эфіры: аўтэнтычныя героі, вясковыя размовы на мясцовым дыялекце.

І так пачалася прыгода з песняй пеўчай групы з Чаромхі-Сяла. За 35 гадоў калектыў удзельнічаў у шматлікіх конкурсах і аглядах. І заўжды вяртаўся з прызамі і вылучэннямі ў катэгорыях сола і дуэтаў



Юбіляраў ад дубяжынскіх самадзейнікаў віншуе Валянціна Тамчук.

або з ганаровымі граматамі для калектыву. Нельга ў адным допісе пералічыць усе мясціны, у якіх давалі канцэрты чаромхаўскія пявунні. Вось некаторыя: Беласток, Бельск-Падляшскі, Гайнаўка, Сямятычы, Мельнік, Драгічын, Нарва, Чорна-Беластоцкая, Крынкі, Плёскі, Козлікі, а таксама выступ на ўкраінскім фестывалі ў Сопаце ды на Украіне.

У тым жа часе ў коле самадзейнікаў многае перамянілася. Пявунні старэйшага ўзросту адышлі. Некаторых няма ў жывых. Калектыў папоўнілі маладыя кадры, галоўным чынам з царкоўнага хору: Анна Бацюк, Надзея Унучка, Яўгенія Кердалевіч, Галіна Шатыловіч і Надзея Дудэль.

— Першай адышла Лідзія Кердалевіч, — расказвае Надзея Унучка. — З мужам апрацоўвалі яны значную гаспадарку. Не пад сілу было працаваць на два франты і рашыла развітацца з пеўчай групай. Вера Панасюк памерла — няхай зямля для Яе пухам будзе. Люба Салінская адышла гадоў дзесяць таму, але кантактаў не парвала. Удзельнічае ў культурных мерапрыемствах, арганізаваных салэцкай радай. А найдаўжэй кампаніі трымалася Марыя Кердалевіч. Развіталася з намі два гады таму.

35-гадовы юбілей, які адзначаўся на Сёмуху, 19 чэрвеня, спявачкі (у складзе пяці чалавек) святкавалі са шматлікай публікай і ганаровымі гасцямі: войтам гміны Міхалам Врублеўскім, старшынёю Рады гміны Сяргеем Смыкам, дырэктарам ГАК Барбарай Кузуб-Самасюк, старшынёю мясцовага гуртка Польскага саюза пенсіянераў Мікалаем Янчуком ды мастацкімі гуртамі «Чарамшына» і «Гілачка» з Чаромхі-Станцыі, «Родына» з Дубяжына і спявачкамі з Дабрывады. З гісторыяй калектыву пазнаёміла дырэктар ГАК. Юбілейны канцэрт доўжыўся больш за дзве гадзіны. Затым былі віншаванні, падарункі ад войта гміны, старшыні РГ, ГАК і самадзейных гуртоў ды традыцыйнае «Многае лета». Раней былі разасланы запрашэнні ў Маршалкоўскую управу, Павятовае староства і кіраўнікам чаромхаўскіх устаноў. Але не адгукнуліся і не прысутнічалі. Адно віншавальны ліст юбілярам даслаў віцэ-маршалак Падляшскага ваяводства Мацей Жыўна. Мерапрыемства закончылася шчодрым пачастункам.

Уладзімір СІДАРУК

# Збудавалі па волі большасці





Блукаючы па лабірынтах часу і прасторы ды закавулках нашай публічнай камунікацыі можна апынуцца ў цалкам нечаканым месцы. Вось так і мне трэба было з’явіцца ў Рыгораўцы ў апошнюю нядзельку мая а палове чацвёртай пасля поўдня. А ў нядзельку публічны транспарт помніць пра запаветны *дзень суботні* і працуе вельмі памяркоўна. Таму трэба мне было выбрацца ўжо ранічкай і неяк той багаты час запоўніць прасторай. Такім вось чынам трапіў я ў Елянку з думкай пра маршрут у Сухавольцы і адтуль далей...

Злез я ў Елянцы з аўтобуса крыху разгублена, бо з часу майго там апошняга знаходжання тапаграфія вёскі карэнна памянялася. З’явілася там цалкам новая дарога, якая перанесла вонкавы рух па шашы між Гайнаўкай і Кляшчэлямі навонкі вёскі. Трэба было мне знайсці дарогу ў напрамку згаданых Сухавольцаў. А народная ж пагаворка падказвае, што не толькі ў Сухавольцы, але нават у Кіеў, найбольш надзейным правадніком з’яўляецца язык.

Пашанцавала мне, бо на апусцелую цяпер елянскую вуліцу адкрываў браму пажылы чалавек ад мураванкі з салтысоўскай шыльдай. Спытаў я не толькі пра патрэбную мне дарогу, але і пацікавіўся, можа ведае ён, ці ў той дзень не адбываецца служба ў сухавольскай царкоўцы. Пра службу ў Сухавольцах ён не ведаў, але паінфармаваў мяне, што вось-вось пачнецца служба ў іх, у Елянцы, на могілках. І запрапанаваў мне, што падвязе туды на машыне.

Але навошта ж мне на машыне, калі елянскія могілкі на канцы вёскі — сам жа ж туды зайду... Зайшоў, а там ні душы. Затое некалькі машын панеслася ў напрамку лесу... Давялося і мне падацца ў той лес. А ў тым лесе, быццам у нейкай казцы, чарговыя могілкі, а на іх мураваная царкоўка, а ў той царкоўцы поўнамаштабная служба з прыстойнай колькасцю вернікаў...

Няўрымслівыя стрэлкі гадзінніка не дазволілі мне дачакаць канца службы і распытацца ў бывалага народу больш пра тую прыхаваную царкоўку. Падаўся я ў лабірынты акружаючага лесу не так па дарогах, як па тых дарог лясных слядах. Але Елянка засела ўва мне быццам нейкі магніт; падаўся я туды неўзабаве...

Зайшоў я ў салтысоўскую хату, спадзяючыся сустрэць свайго ранейшага суразмоўцу. У сенцы насустрач мне выйшла маладая жанчына, у якой я і спытаў пра гаспадара вёскі...

— Гэта я, — адказала.

Мяне гэта збянтэжыла да найніжэйшых прыступак, а маладую гаспадыню напоўніла нейкай доляй ганарыстасці і далей яна адзывалася да мяне даволі стрымана. Пажылога гаспадара дома не было, затое апрача маладой гаспадыні — так хаты, як і вёскі, — Галіны Нічыпарук, была гаспадыня больш сталая — Ніна Нічыпарук; яна мне і расказала пра елянскія справы...

— Быў бацюшка Віталій, што ў Боцьках быў...

— Гаўрылюк?

— Гаўрылюк. І ён пачаў тую справу, каб царкву будаваць. А ў Рутцы такая баба, што замаўляе...

— Ганна?

— Ганна. Яна шмат унесла, грошы збірала. І тут такое святое месца зрабілі, як Грабарка. Сюды крыжы везлі, яна малілася пад тымі крыжамі...

— Тымі, што ў канцы вёскі?

— Не, там дзе могілкі. Краевугольны камень заклаў яшчэ Дзевятоўскі, які быў благачынным у Гайнаўцы; гэта быў пачатак дзевяностых гадоў. І зачалі; Віталій знайшоў якогась там майстра, але і людзі ўсе працавалі — апрача аднае бабы, што ўпіралася, і ейнай сям’і.

— А тая баба адкуль была — з Елянкі?

— З Елянкі. Яна хацела, каб тут, на старых могілках, бо тут ейныя бацькі пахаваны. Але ж людзі ўсе на новых могілках хаваюцца.

— А калі заклалі тыя новыя могілкі: ці Вы помніце?

— Не, бо я не зсюль. Але на крыжах мужавых сямейнікаў вырыта дата 1931; а можа і старэйшыя крыжы ёсць. І тая баба хацела тут, каля вёскі, але людзі яе не паслухалі, яна тут кляла-кляла нас усіх. А пасля і той Ганне новыя могілкі прысніліся. І сталі на новых могілках. І рабілі ўсе; амаль усе. І майстроў кармілі.

— З чаго стаўлялі: з цэглы?

— З белых *блёчкаў*. Высвячаў мітрапаліт Васілій.

— У якое гэта было свята?

— Івана Багаслова, 21 мая і 9 кастрычніка — гэта наша *храмавое* свята. І службы на Івана ў нас правяцца. Ды раз у месяц, а раней то і часцей бывала.

— Гэта толькі сама Елянка стаўляла гэтую царкоўку?

— Сама. Толькі мы калядавалі, па іншых вёсках ездзілі. Я з суседкай ездзіла ў сваю вёску, у Пашкоўшчыну. Людзі давалі; ну, па дзесяць злотаў то напэўна не давалі — па пяць, па два давалі. І так тыя грошы збіралі і паставілі. А ўсярэдзіне іканастас прывезлі з Дубіч, стары іканастас. Там паставілі новы, а стары да нас перавезлі; выйшла нам танней. І так тая царкоўка паўстала. І добра, толькі што людзей малавата. А то калісь і абходы былі, з царквы выходзілі, многа людзей, дзеці іконкі нясуць, ідзем па сяле. *Харашэ* было. Толькі людзей усё меншае. Сёлета кажу *батюшкові*: „Вжэ нэма кому йты, бо то кульгавы, то які; можэ туолькі оно молебень такую одслужыты за сэло”. А ён, як кончылі абход, кажа: „Яшчэ троху назбіралосе. І так, пані Ніно, думаю, што як останэмся туолькі Віетэ і я, то тогды нэ пуойдэм”. У другую нядзелю пасля Вялікадня той абход у нас, як бы жон-міраносіц. Тут аднаго разу на старых могілках правілі, па бацюшкі Баравіка бацьку; бацюшкі і матушкі з’ехаліся. А тут акацыя зарасла. Ідуць тыя матушкі, акацыя за спадніцы чапляецца. Знічоў тады не было, то збанкі пабітыя стаўлялі, а ў іх свечкі — то такі *балаган* рабіўся. Пасля тут тую акацыю высякалі, і *прыскалі*, і крыху яе зліквідавалі. А то *буш* быў.

— А колькі цяпер душ у Вашай вёсцы будзе?

— Можа каля сарака зімуе, — адказвае спадарыня Галіна.

— А колькі дзяцей у Дубічы ў школу возяць?

— Двое: у гімназію і ў пятую падставоўкі.

— І па іх гімбус прыязджае?

— Не гімбус! — усклікае спадарыня Ніна. — Каб Вы бачылі які *аўтобусыло* прыходзіць! З Бельска наймаюць — турыстычны нармальны аўтокар.

— Спытаю Вас яшчэ пра адно: тут вам зрабілі кругом дарогу: ці добра гэта?

— Ой, *супэр*. Толькі троху запозна — каб на дваццаць гадоў раней. Тады шмат дабытку было. І кожны едзе, трасе на цябе кулаком, што гоніш. А хата, то як здалёк едуць тыя цяжкія самаходы, аж варушыцца. А цяпер то ўжо *спокуй*.

— Калісь быдла ганялі — а цяпер шмат яго трымаюць?

— Толькі адзін малако возіць. Мы гадуем, але малака не возім. І суседка трое трымае. Але не выганяюць. І нашы цэлы час на пашы.

— Паша хіба абгароджана?

— Як і абгароджана, то ім не перашкодзіць.

— А з лесу што прыходзіць?

— Алені, дзікі, зубры.

— Але вялікае шкоды не робяць?

— Дзікі вельмі пашу нішчаць, рыюць. А зубры ці алені паскубуць траву і пойдуць. А пасля дзікоў то раўняць трэба. Аднаго года то мы на сваім тыднямі выраўноўвалі, грабелькамі. Каб яны занялі і вырылі адзін кусок, а то то тут кусочак, то там кусочак. І ідзеш і так *упляшку* закрываеш.

Падаўся я яшчэ да Дзмітрыя Клімюка, які пры елянскай царкоўцы старастам...

— Царква стала ў 1992 годзе. Ганна з Руткі прывезла з Чахоў мільён, здаецца, сямсот яшчэ старых грошай.

— А чаму з Чахоў?

— Бо там закалядавалі. І яна прынесла, каб я ўзяўся будаваць тую царкоўку. Я так хацеў — не хацеў, жонка мне не дазваляла, але ўзяўся. Вельмі добра пайшло. Мы ўзяліся, і Гасподзь дапамог, і за адно лета яе паставілі. Усе абавязкі былі на мне, каб матэрыял даставіць і ўсё што трэба. Людзі прыхіліліся і мы за лета яе паставілі; ужо на Івана 9 кастрычніка 1992 года была ў ёй служба. Але не абыходзіцца без варажнечы. Тут на мяне населі, каб мяне адкінуць. Паставілі мяне старастам. А тут была такая кабета, якая хацела ўстанавіць свае правілы. Дайшло да таго, што мяне з царквы выводзілі. І гэта цягнецца аж да гэтых пор. Але царкоўку паставілі. Я ўсё афармляў, маю ўсе дакументы.

— А я Вас спытаю пра іншае. Царкоўку паставілі на могілках; а калі тыя новыя могілкі заклалі?

— Ой, даўно, *я нэ помэнтаю*. Але ёсць там два крыжы з канца 1800-х гадоў. Мы хацелі паставіць яе тут. Але тая баба, што я гаварыў, рабіла ўсё *вражду* — іх было больш, такая пачка, а нас менш. Я ў Варшаву ездзіў, да Васілія, па дазвол, расказваў яму што і як. А Васілій кажа: „Дзе бальшынство хоча, там будуйце”. А той матэрыял ляжаў тут, цераз вуліцу, у тае кабеты на панадворку, бо там не маглі трымаць, каб таго матэрыялу не раскралі. У Істоку пілавалі драўніну на бэлькі ці *легары*. Тут усё трымалі, а калі было трэба, тады людзі вазілі матэрыял на будову. Былі два майстры і трэба было яшчэ два-тры нашы чалавекі, дапамагаць ім. Бацюшка крышку наглядаў, але поўнасцю за ўсім наглядаў я. Іконы, крыжы, прастол, падлогу, свячны яшчык — усё я афармляў. Харугвы то тыя бабы заказвалі, металічныя харугвы то ўжо гэты бацюшка выстараўся, а тронкі то мой сын у Дубінах рабіў. Шмат работы было. І па сённяшні дзень я наглядаю, хаця я ўжо ў гадах.

— А колькі Вам гадоў?

— А колькі я магу мецъ?

— Восемдзесят пяць?

— Шэсць. А неўзабаве сёмы пойдзе. А жыццё маё цяжкое было — у шэсць гадоў без мамы астаўся. Але Гасподзь даў добрую жонку і мы супольна ўсё нажывалі. А царкоўка ўсім патрэбная. Вось 9 ліпеня, у гадавіну тае буры, што пабіла нашу вёску, будзе тут служба. Адно шкада, што людзей меншае. У першае набажэнства прыступіла тут да споведзі шэсцьдзясят чалавек, а цяпер намнога-намнога менш, нават калі дзяцей з гарадоў пазвозяць. Шкада толькі, што царкоўка ў лесе, бо каб была побач вёскі, то і з дарогі людзі да яе заглядалі б...

* * *

Царкоўку ўсё ж такі збудавалі на могілках, дваццаць чатыры гады таму. За той час шмат што ў Елянцы памянялася. Але царкоўка, у якой засень падаюцца жыхары Елянкі, будзе стойка чакаць Суднага дня, каб засведчыць пра скоранасць перад Творцам людзей, між сабою пакорлівых не надта...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Крынскае праваслаўна-каталіцкае неба

— Ніколі свайго не саромейся. Як цябе пахрысцілі, так і хрысціся, такой памірай, — павучае мяне васьмідзесяцігадовая Станіслава з Крынак. Гэтыя словы выклікаюць прыемнае здзіўленне, захапляюць цвёрдасцю думкі іх аўтаркі, шчырым прызнаннем паўнацэннасці іншых рэлігій. Рэдкая з'ява, тым больш сярод прадстаўнікоў пануючай рэлігіі. Каталічка ад нараджэння. Муж — таксама каталік, як і шасцёра дзяцей і яшчэ больш унукаў. Хутка памёр — свяці Пане над яго душой — пакінуўшы яшчэ маленькіх чатырох хлопчыкаў і дзве дзяўчынкі. Пасля яго смерці сваталіся разумнай і прыгожай Стасі ўсякага роду кавалеры:

— Ты ж сама не зможаш жыць, — казалі.

— Я не сама, — адказвала. — Глянь, колькі нас тут. Хапае сваёй бруднай бялізны, каб яшчэ вашай займацца.

Цяпер Стася сама сабе пані. Дзе хоча, туды і пойдзе, калі захоча, вернецца ва ўжо ціхую, спакойную хату. У кожнага з дзяцей свая сям'я, панадворак, аўтамабіль. Адзін — найбяднейшы — жыве ў блёку. На сынавыя кепскага слова не скажа. Пра мужыкоў дбаюць, працавітыя і пра Стасю не забываюць. Усе, без выключэння, надта ўдалыя. А якія ж у яе ўнукі! Двух нават па-беларуску спявае — не сароміцца.

Яе родная маці — Зоя — напрыканцы жыцця вельмі прасіла заўсёды ставіць свечкі ў царкве пад іконай Крынскай Божай Маці. Загад зусім няпросты ў выкананні. Звычайна каталікі не ходзяць у царкву, а звычайна праваслаўная нага не пераступае парога каталіцкага касцёла. Не ходзяць і дакладна не ведаюць чаму. Мабыць, ад страху перад невядомым, чужым. Стася не пабаялася. Бывала, што разумнейшыя за бацюшку своеасаблівыя тэрцыяркі за рукавы выцягалі яе з царквы, тлумачыўшы, што за ўпакойных пад гэтай іконай свечак не ставяць. На шчасце Стасі хапала адвагі, каб у чужой хаце абараніць свае інтарэсы.



— Адчапіцеся ад мяне, не ваша справа. Дзе захачу, там і пастаўлю, — адказвала ім тады.

Запіскі за маму Стася пакідала ў касцёле і ў царкве. Малілася і ў хаце па-свойму, значыць, па-каталіцку. Цягам першых праваслаўных сарака дзён пасля маміннай смерці чытала польскія псалмы. Хацела, каб мамина душа пайшла не праз каталіцкі чысцец, але адразу ў праваслаўнае неба. Пасля сарака дзён, праведзеных на сумленнай малітве, у сне маці папрасіла не перапыняць чытання. Праваслаўнае сорак дзён працягнулася ў год і месяц. Толькі тады маці перастала ёй сніцца.

Крынская Божая Маці сказала Зоі вяртацца на сваю веру. Гэты сон быў настолькі жывым, што запамятаўся Зоі да канца жыцця. Просьбу Крынскай Божай Маці выканала неадкладна. Каталічкай Зоя стала зусім выпадкова. Нарадзілася ў крынскай праваслаўнай сям'і. Шмат тады такіх сем'яў тут пражывала. Муж у яе таксама быў праваслаўным. Ад яго Зоя нарадзіла трое праваслаўных дзяцей. Калі мужык памёр, прыйшоў да яе парабак, каталік. Закахаліся, пажаніліся і нарадзілі чацвёра ўжо каталікоў, у тым ліку Стасю.

Восемдзесят гадоў у рэлігійнай дыхатаміі. Нават з праваслаўнай братавой у адной хаце жыла. Святкавала і па-праваслаўнаму і па-каталіцку, толькі часу на працу заставалася няшмат. Згоднае існаванне двух розных светаў не ўсім было даспадобы. Абгаворвалі, смяяліся, глядзелі як на дурняў.

— Калі добры чалавек, няважнае ці ён праваслаўны, ці каталіцкі, а халеры ўсюды знойдуцца, — кажа Стася.

Мама ад удзячнасці за свечкі пад іконай Крынскай Божай Маці заўсёды дапамагала Стасі. Калі толькі папросіць, маці заўсёды збудзіць на працу. Аднойчы Стася папрасіла ўстаць а чацвёртай раніцы, а маці ўжо ў тры пыталася: „А колькі ж я буду тваіх байструкоў пільнаваць?". Цяпер ужо не сніцца так часта. Няма такой патрэбы. Усё роўна неўзабаве сустрэнуцца ў праваслаўна-каталіцкім небе.

**Іаанна ЧАБАН**




## http://elections2016.spring96.org

У Беларусі ў чэрвені стартавала кампанія па выбарах у парламент. Папраўдзе кажучы, кампанія, выбары і парламент у дачыненні да Беларусі маюць дастаткова ўмоўны змест. Прычына гэтага крыецца ў адсутнасці ў беларускай краіне сапраўднага парламента, сапраўдных выбараў і, адпаведна, сапраўднай выбарчай кампаніі. Гісторыя гэтай несапраўднасці сягае ў 1996 год, калі дзеючы прэзідэнт праз антыканстытуцыйны пераварот, прыкрыўшыся нібыта дарадчым рэферэндумам, разагнаў законна абраны парламент — Вярхоўны Савет. Набраўшы ў нікім не выбраную Палату прадстаўнікоў сваіх паслядоўнікаў, Аляксандр Лукашэнка, па сутнасці, знішчыў беларускі парламентарызм, які ледзьве пражыў пяць гадоў. Наступныя 20 гадоў толькі пацвердзілі гэта, бо Палата прадстаўнікоў не з'яўляецца парламентам у агульнапрынятым сэнсе. І гэта тычыцца як формы, так і зместу. Так, у ёй забароненыя партыйныя фракцыі і не было ніводнага выпадку, каб яна адмовіла ў прыняцці якога-кольвечы законапраекта, прапанаванага адміністрацыяй прэзідэнта.

Але ўсё калі-небудзь канчаецца. Так, пэўна, канчаецца і эпоха суцэльнага ўсеўладдзя прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. Прычын, якія даюць падставы так думаць, варта шукаць у знешнім фактары, які вельмі моцна адбіўся на ўнутранай палітыцы і свядомасці самастойных палітычных фігур. Падзеі на Украіне стварылі зусім іншую палітычную сітуацыю ва ўсходне-еўрапейскім рэгіёне і Аляксандр Лукашэнка, які дзесяцігоддзямі лічыўся апошнім дыктатарам Еўропы, раптам займеў магчымасць прыдбаць значнасць сваёй персоне праз мінскія перамовы аб Данбасе. Вынік — як афіцыйны Мінск, так і Еўрасаюз пачалі казаць аб нейкім пацяпленні ва ўзаемадачыненнях. І беларускім уладам стала важна прадэманстраваць хоць нейкую адпаведнасць агульнапрынятай практыцы правядзення выбараў. Зразумела, уся гэта дэманстрацыя штучная, але за яе, як за саломінку, хапаюцца апаненты рэжыму, каб прабіцца нават у той недапарламент, якім з'яўляецца беларуская Палата прадстаўнікоў.

Паколькі ўпершыню за два дзесяцігоддзі ніхто з беларускай апазіцыі не кажа пра байкот выбараў, для назіральнікаў ствараецца ўнікальная сітуацыя засведчыць, наколькі тое пацяпленне адбілася на рэальнай унутрыпалітычнай сітуацыі. Адны з такіх назіральнікаў — беларускія праваабаронцы, якія сочаць за ходам электаральнай кампаніі ад яе абвяшчэння. Свае назіранні яны публікуюць на адмыслова створаным сайце «Праваабаронцы за свабодныя выбары», што месціцца па адрасе **http://elections2016.spring96.org**.

«Праграма незалежнага назірання за выбарамі ў Палату прадстаўнікоў 2016 года ладзіцца праваабарончым цэнтрам «Вясна» і «Беларускім Хельсінкскім камітэтам». Мэтай кампаніі з'яўляецца ацэнка выбарчага працэсу з пункту гледжання беларускага выбарчага заканадаўства і міжнародных стандартаў свабодных і дэмакратычных выбараў, інфармаванне беларускай грамадскасці і міжнароднай супольнасці аб ходзе выбарчай кампаніі і выніках маніторынгу», — распавядаецца на галоўнай старонцы сайта. Там жа месціцца карта Беларусі з пазначэннем колькасці паведамленняў з розных гарадоў. Уласна паведамленні змяшчаюцца ў стужцы навін, якая знаходзіцца пад картай.

Акрамя гэтай інфармацыі, на сайце знаходзяцца аналітычныя матэрыялы ў рубрыцы «Важнае», а таксама дакументы, датычныя выбараў, у сваёй аднайменнай рубрыцы.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**




Трапіў з агню ў полымя



## 125 гадоў з дня нараджэння Паўла Валошына

Беларускі палітычны дзеяч Павал Валошын нарадзіўся 28 чэрвеня (10 ліпеня) 1891 г. у вёсцы Гаркавічы Сакольскага павета (тады Гродзенскай губерні). Скончыўшы школу, у 1908-1912 гг. працаваў у мястэчку Крынкі на пошце тэлеграфістам. У 1913-1917 гг. служыў у расейскім войску. Быў сябрам Беларускай партыі эсэраў. Ваяваў у Першую сусветную вайну, на фронце быў паранены, трапіў у нямецкі палон. Пасля кастрычніцкай рэвалюцыі служыў міліцыянтам у расейскім Екацярынаслаўлі. З жніўня 1919 г. ваяваў у дзянікінскай арміі. Потым ваяваў на баку Чырвонай Арміі ў атрадзе Грыгорыя Катоўскага. Трапіў у палон да пятлюраўцаў, потым быў служачым на чыгунцы.

У 1922 г. Павал Валошын вярнуўся на радзіму, працаваў на сельскай гаспадарцы. Уваходзіў у Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю, потым у Беларускую партыю незалежных сацыялістаў. 31 ліпеня 1923 г. абраны дэпутатам польскага сейма (замест знятага і высланага з краіны Уладзімера Каліноўскага), увайшоў у Беларускі пасольскі клуб. Адзін са стваральнікаў Беларускай сялянска-работніцкай грамады (БСРГ), у 1926-1927 гг. быў сябрам яе цэнтральнага камітэта. У 1926 г. стаў сябрам Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Пасля расколу Пасольскага клуба перайшоў да соймавага клуба БСРГ. У сойме ўдзельнічаў у абмеркаванні праектаў законаў пра парцэляцыю і асадніцтва, адбудову знішчанай вайной будынкаў. Арганізоўваў мітынгі ў розных мясцовасцях: у Беластоку, Гродне, Алекшыцах, Індуры, Крынках, Лунне, павятовыя з'езды БСРГ у Гродне ў верасні, Саколцы — у лістападзе і Старым Беразове — у снежні 1926 г. Актыўна выступаў за амністыю палітвязням.

У лютым 1927 г. арыштаваны польскімі ўладамі. На працэсе над грамадоўцамі (так званы „працэс 56-і") засуджаны да 12 гадоў турмы. Сядзеў у турмах Лукішкі ў Вільні, у Вронках, Равічы. У выніку абмену палітычнымі зняволенымі ў 1932 г. трапіў у СССР, што называецца з агню ў полымя. З 1933 г. жыў і працаваў у Менску. Выступаў з лекцыямі і публікацыямі, ездзіў з гэтай мэтай у Маскву, Ленінград, Пяцігорск, Днепрапятроўск, займаўся грамадскай дзейнасцю. Працаваў памочнікам дырэктара Беларускай дзяржаўнай бібліятэкі і ў Бібліяграфічным інстытуце пры гэтай бібліятэцы. З'яўляўся адказным сакратаром ЦК Аддзялення Міжнароднай арганізацыі дапамогі змагарам рэвалюцыі ў БССР.

У разгар сталінскіх рэпрэсій 1 верасня 1933 г. Павал Валошын арыштаваны ў Менску па справе „Беларускага нацыянальнага цэнтра". Абвінавачваўся ў контррэвалюцыйнай дзейнасці і стварэнні арганізацыі, якая мела на мэце дзяржаўны пераварот. 9 студзеня 1934 г. Калегіяй ОГПУ пры Савеце Народных Камісараў СССР паводле артыкула 58 крымінальнага кодэксу прыгавораны да расстрэлу, замененага 10 гадамі канцлагераў. Этапаваны ў Беламорска-Балтыйскі лагер НКВД. Адбываў зняволенне ў Салавецкім лагеры асаблівага прызначэння (лагерны пункт „Анзер").

9 кастрычніка 1937 г. асобай „тройкай" УНКВД па Ленінградскай вобласці зноў прыгавораны да расстрэлу. Расстраляны ў перыяд масавых знішчэнняў 3 лістапада 1937 г. у Менскай турме. Месца пахавання, як звычайна ў такіх выпадках, невядомае.

Па абодвух прыгаворах Павал Валошын рэабілітаваны быў 16 жніўня 1956 г. Яго асабовая справа захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Рэч Паспалітая тутэйшых



Павел Вінярскі, Мікола Ваўранюк і Кацярыа Вінярская ў час гутаркі пра тутэйшасць

**Невыпадкова беларуская асацыяцыя «АБ-БА» на галоўных герояў чарговай гутаркі ў рамках дыскусійнага клуба абралі Кацярыну і Паўла Вінярскіх. У ветраную пятніцу 15 чэрвеня адзначалася дванаццатая гадавіна смерці Яцка Кураня. Героі сустрэчы моцна звязаныя з Паўшэхным універсітэтам імя Яна Юзафа Ліпскага ў Тэрэмісках, якога задумшчыкам быў Яцак Курань. Кацярына і Павел Вінярскія жывуць у Тэрэмісках, дзе на працягу 15 гадоў сумесна працягваюць дзейнасць універсітэта. Задумшчыкамі паўшэхнага ўніверсітэта былі Яцак і Данута Курані. Дзейнасць універсітэта змяніла свой характар на працягу многіх гадоў ад нефармальнай адукацыі выключанай моладзі ў пачатку дзейнасці аж да суарганізавання выкладання беларускай мовы ў Белавежы (на заняткі беларускай мовы ходзяць іх дзеці), да тэатра ў клуні і віртуальнага музея габрэяў у Белавежы ў апошнія гады. Госці расказалі пра сваю працу, пра нялёгкае рашэнне пасяліцца ў Белавежскай пушчы, аб сваіх аўтарытэтах, пра тое, як адчуваюць сябе як тутэйшыя і чужыя ў Белавежжы, аб сваім актыўным удзеле ў культурным, палітычным і грамадскім жыцці рэгіёна.**

— Тэрэміскі для нашай асацыяцыі бацькоў дзяцей, вывучаючых беларускую мову і моладзі — незвычайнае месца. Тут узнікла шмат ідэй, праводзіліся летнія этнаграфічныя семінары, рабочыя сустрэчы «Падляшскіх хронік», вучні неаднаразова прымалі ўдзел у мерапрыемствах, арганізаваных універсітэтам. Кацярына і Павел Вінярскія, а таксама неацэнная Данута Курань гэта перш за ўсё нашы сябры, партнёры і настаўнікі, — сцвярджаюць сябры згуртавання «АБ-БА».

— Калісьці Ілона Карпюк у час Сімпозіума «Варта спытацца пра культуру» ў Тэрэмісках сказала, — успамінае Павел Вінярскі: — Я — беларуска, Польшча з'яўляецца маёй радзімай. Гэтыя словы былі вельмі важныя. У сціснутай форме кранулі сэрца праблемы, якая змяшчалася ў лозунгу сустрэчы «Іншы, чужы, свой». Ці магчымая супольнасць, якая не адмаўляе своеасаблівасці? У якой канцэпцыі Іншы і Свой не супярэчаць адзін аднаму і ўзаемна не выключаюць адзін аднаго? Разнастайнасць з'яўляецца адначасова слабасцю і сілай, як пісаў Канстанты Геберт. Таксама з'яўляецца неад'емнай рысай свету, які становіцца ўсё больш цесным. У «Рэспубліцы для маіх унукаў» Яцак Курань, запрашаючы задаваць пытанні з нагоды ключавых праблем, якія стаяць перад светам і яго рэгіёнамі, нагадвае тэрмін «Рэч Паспалітая», «распрацаваны ў працэсе стварэння супольнай айчыны палякаў, русінаў, габрэяў, літоўцаў, прусаў...». Ідэя Супольнай Рэчы, створанай прадстаўнікамі розных народаў, рэлігій і традыцый, а таксама адкрытай і талерантнай, трывала ўкаранёная ў гісторыі і інтэлектуальнай традыцыі Цэнтральнай Еўропы, у тым ліку Польшчы. У форме дзяржавы сумесна створанай палякамі і літоўцамі, як піша Чэслаў Мілаш у «Сямейнай Еўропе», была выключным выпадкам мірнага шэсця цывілізацыі. Аднак ідэя «Рэчы Паспалітай» засталася і да гэтага часу застаецца толькі ўтопіяй, якая, хоць і магчымая, на практыцы недасяжная. Мы — аніматары культуры, стаім перад сітуацыяй, да якой не можам падыходзіць абыякава. Універсітэт паўшэхны імя Яна Юзафа Ліпскага ў Тэрэмісках нарадзіўся, калі беспрацоўе ў Польшчы наблізілася да ўзроўню 20%, а ўвесь свет перажыў трагедыю верасня ў Нью-Йорку. Ніхто цвяроза думаючы не сумняваўся, што бягучая формула, на якой быў заснаваны глабальны парадак, не праверыла сябе. Курань скончыў пісаць «Дзеянне» і, па сваім звычаі, практыкаваў з намі свой ход мыслення. Мы паставілі фундаментальныя пытанні для нашага ўніверсітэта. Адным з элементаў вызначэння культуры, які сфармуляваў Яцак, была думка, што арганізуе яна рэальнасць, адказваючы ўсебакова на пытанне пра тое, як жыць. Аднак, калі не дае адказаў, дэзынтэгруе жыццё. Неабходна паставіць новыя пытанні і знайсці новыя адказы. У 2002 годзе, калі прыехалі першыя студэнты ўніверсітэта, мы зыходзілі з рэчаў, найбольш блізкіх нам — пытання: як уступіць у дарослае жыццё. Гэта не было пытанне, якое турбавала людзей толькі там, дзе жыццё ў Польшчы з'яўлялася самым цяжкім. «Як жыць» з'яўляецца таксама праблемай прывілеяванай моладзі. Яго можна разглядаць, па меншай меры, на двух узроўнях: выбару каштоўнасцей і этасу. Другім пытаннем было: з чаго жыць? Яно было значна больш драматычным для людзей, якія жывуць, напрыклад, у былых пасляпэгеэраўскіх пасёлках, але яно няпростае і для выпускнікоў элітных школ. Цяпер, калі амаль усе нашы сілы аддаем на падтрымку Белавежскай гміны, пытанні засталіся ранейшымі. Як жывуць людзі ў пушчанскіх вёсках? Супольнасць, якая курчыцца, карані якой сягаюць многіх цудоўных традыцый, сутыкаецца з нявырашанай праблемай мадэрнізацыі. Праблемы палітычнай стратэгіі дзяржавы — формы палітычных змен, прысвойвання дасягненняў цывілізацыі Захаду, іх выбар, адказ на пытанне аб сваёй уласнай культурнай індывідуальнасці ды выбар мадэлі адукацыі, якая ідзе ў нагу са зменамі свету немагчыма вырашыць на ўзроўні экспертаў і прадыктаваных ціскам часу рашэнняў палітыкаў. Недастаткова вырашыць ідэалагічныя праблемы. Канчатковае рашэнне залежыць ад «свабодна прынятай» сістэмы каштоўнасцей. Калі мы сталі працаваць з белавежскімі дзецьмі, мы верылі, што мадэрнізацыя неабавязкова адбываецца за кошт страты біяразнастайнасці і дэградацыі краявіду, і разнастайнасць разам з культурным і прыродным ландшафтам не павінна быць перашкодай у працэсе мадэрнізацыі. Вельмі карысна ў такім мысленні было разрозненне Кшыштафа Чыжэўскага паміж правінцыялізмам і Правінцыяй. Правінцыя атрымлівае моц са свядомасці дрымотнага патэнцыялу «з яго непаўторным ландшафтам, спляценнем лёсу і вопыту, маласцю і марнасцю, таямніцай і бляскам». Для сваіх жыхароў з'яўляецца цэнтрам, а не рэччу сорамнай і схаванай. Правінцыя таксама з'яўляецца апісванай Джэвадам Карагасанам «драматычнай супольнасцю». Супольнасцю за круглым сталом. Радзімай, якая грунтуецца, як піша Мілаш, не на крыві, але адказнасці. Існаванне правінцыі блізкае да ідэалу Рэчы Паспалітай. Сёння, аднак, у грамадскім жыцці, гэты ідэал не практыкуецца. Праўдзівы канец Першай і Трэцяй Рэчы Паспалітай меў месца ў 2000-2004 гадах, калі адышлі мудрацы, якія неслі цноты Рэчы Паспалітай: Ежы Гедройц, Чэслаў Мілаш, Станіслаў Стома, Яцак Курань, Ян Новак-Езяранскі і Караль Вайтыла. Іх дэвізам было інстынктыўнае супрацьдзеянне выключэнню, адказванне дыялогам на адзіную праўду і адказнасць, якая выключае радыкалізм. Мы засталіся адны пры дэманах нацыяналізму, і адзінапраўды, якія адраджаюцца на нашых вачах ды радыкалізму, які топча чалавечую годнасць. Што мы можам зрабіць, гэта старацца працаваць у адпаведнасці з этасам Рэчы Паспалітай — адкрытай, талерантнай і сумесна створанай усімі, з павагай да чалавека і месца, у якім дзейнічаем... **(лук)**

# 10.07 — 16.07

**(22.03. — 20.04.)** Не пераймайся думкамі іншых — рацыя на тваім баку. Многа энергіі, дык можаш быць гвалтоўным у эмоцыях і нарабіць памылак. З 14.07. (да 19.07.) можаш наладзіць вельмі цікавыя знаёмствы. Старайся разумець іншых і ашчадзіць ім вострых слоў. Калі паявяцца прапановы працы, можа трэба будзе перасяліцца; варта рызыкнуць. Добра зробіць табе фізічная актыўнасць, але не сапернічай.

**(21.04. — 21.05.)** Рабі тое, на што маеш ахвоту. Хваліся сваімі дасягненнямі, пахваліць цябе і кіраўніцтва, дачакаешся канкрэтнай карысці ўжо пасля 12.07. Хтось, на кім зробіш вялікае ўражанне, дасць табе прапанову, якую варта прыняць. Быкоў з першай дэкады будуць проста «разрываць» прапановамі занятку. Але прытармазі выдаткі, бо грошы будуць проста тапіцца. З 14.07. (да 19.07.) паверыш, што мары здзяйсняюцца.

**(22.05. — 22.06.)** Не будзеш мець часу на ляноту. Планеты шыкуюць многа новых задач. Вельмі карысны перыяд. Нават калі планеты сашлюць нейкія абмежаванні, пойдзе гэта карысна для твайго здароўя і кашалька. Падарожжы перакладзі на наступны месяц, лепш вазьміся за нейкі рамонт у хаце (трымайся плану). Усе справы зашпільвай на апошні гузік, бо вылезуць розныя недаробкі. Рыхтуецца для цябе выйгрыш паміж 15-19 ліпеня!

**(23.06. — 23.07.)** Чакае цябе ўсё файнае — павышэнне, прыгожае пачуццё, вялікія грошы, толькі ўстань і працягні руку. Зоркі проста гараць, каб зрабіць тваё жыццё больш прыемным. У пачуццях і не думай аб «адаграваных катлетах». Спадзявайся нейкага сюрпрызу ад радні. Хтосьці будзе патрабаваць тваёй падтрымкі, а не лавіны добрых парад. Не зачыняй дзвярэй, можа за імі стане твой новы сапраўдны сябра? Карысная здзелка: 8-12.07. А 9-13.07. неспадзяваны абарот спраў можа вывесці цябе з раўнавагі. 16.07. не спрачайся з шэфам.

**(24.07. — 23.08.)** 8-12.07. хопіць табе шчасця і добрых фінансавых нагод. Хаця можаш быць стомлены і знеахвочаны, і надта не зашалееш. Да 12.07. ты амаль нябачны для іншага полу, пасля вочы звернуцца на цябе. З 12.07. выберыся ў падарожжа. Калі цяпер пойдзеш у водпуск, не да канца адарвешся ад работы. Шукаючыя працы няхай сходзяць на дадатковыя абучэнні і курсы (найлепшы момант пачаць іх 13.07.).

**(24.08. — 23.09.)** 8-12.07. твае рашэнні будуць хуткія і трапныя. 9-13.07. старайся захаваць спакой, не рэагуй злосцю і агрэсіяй. Да 12.07. афармі найважнейшыя службовыя справы і дакументы. З 14.07. будуць нагоды да падарожжаў і файных прыгод. Адпачывай актыўна.

**(24.09.—23.10.)** Магчымыя канфлікты і непаразуменні, але будзеш мець сілу і цярплівасць, каб датрываць да 20.07., калі карта ўрэшце адвернецца. Ад 12.07. з кожным днём будзе папраўляцца твой настрой. І з таго часу заззяеш на публічным форуме! Будзеш у форме, паб'еш канкурэнцыю, атрымаеш датацыю... З 14.07. (да 18.07.) будзеш думаць і дзейнічаць творча і ўразіш атачэнне.

**(24.10. — 22.11.)** Да 12.07. будзеш мець нагоды развінуць сваю пасію. Цяпер лепш не ідзі яшчэ ў адпачынак, іграй за высокія стаўкі. Але калі штосьці не пойдзе па тваёй думцы, зноў пачнеш злавацца. Заплаці ўсе рахункі. Нават на канікулах схочаш здабываць вяршыні. Скантралюй свой крывяны ціск.

**(23.11. — 22.12.)** Незалежна ад цяжкасцей, рабі сваё, будзеш узнагароджаны, а карысці будзеш мець нечакана вялікія. Весела ў кампаніі, сярод іншага полу. З 14.07. затрапечацца тваё сэрца, хаця ў пастаянных парах без асаблівых феерверкаў. Не зажырай суму.

**(23.12. — 20.01.)** Звернеш увагу на справы дому і сям'і. Але і выклічаш вялікую зацікаўленасць іншага полу. На працы можаш быць медыятарам. Шукаючым работу можа прытрапіцца часовы занятак, быццам бы нічога, але будуць пункты ў CV. Не пераядай прыбыткаў. Не рызыкуй без патрэбы, асабліва ў вадзе.

**(21.01. — 19.02.)** Праааналізуй яшчэ раз свае справы. Не бярыся за ніякія рамонты і ладжанне рэчаў 11-19.07., бо хутчэй штось папсуеш. Ад паловы месяца будзеш мець зялёнае святло ў пачуццях. З 14.07. (да 19.07.) атрымаеш інфармацыю аб вольным штаце; можа ведаеш кагосьці ў гэтай фірме? Пільнуй свае вочы.

**(20.02. — 21.03.)** Будзеш адважны, баявіты, няўступчывы. Маеш падтрымку зорак, асабліва калі ты Рыба з трэцяй дэкады. Схочаш памагчы іншым. Вельмі скандальна з 11.07. (да 19.07.) схочуць сябе павесці Рыбы з паловы сакавіка. Варта цяпер заснаваць сваю фірму. Чакаюць цябе ўзнагароды, але можаш яшчэ больш расходаваць. Калі хочаш выдаць грошы на большую рэч — зрабі гэта да 12 ліпеня.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

**1.** старшы святар у праваслаўнай царкве, **2.** вогненнае месца ў хаце і ў ... печані, **3.** дзяржава ў Меланезіі са сталіцай у Порт-Віла, **4.** егіпецкі фараон пахаваны ў найбольшай пірамідзе, **5.** высушаная трава, **6.** дзеянне аднаго суб'екта ў сумесным мерапрыемстве з іншымі суб'ектамі, **7.** асобная кніжка збору твораў, **8.** начуе ў гасцініцы або на пашы, **9.** доля ўдзелу ў агульным мерапрыемстве, **10.** зыходнае палажэнне, якое прымаецца за неаспрэчную ісціну, напрыклад у рэлігіі або ідэалогіі, **11.** з яе воўна і ... бараніна.
Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

**(ш)**

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | | | | 2 | | 3 | |
| | 4 | | | 5 | 6 | | | | | | |
| | | | | | 7 | | | | | | 8 |
| | | | | | | | | 9 | | | |
| | | | 10 | 11 | | | | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 25 нумара**

Берыя, вош, гаць, мі, плечы, Сочы, цвіль, чужы, шыш.

Рашэнне: **Лепш біць свае вошы чым лічыць чужыя грошы.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Яну Міхалюку** з Чыжоў.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# За мала пра яго гаворыцца!

**Час не выкідае са свайго рэчышча ўсяго, што было і, здавалася б, мінула беспаваротна. Гісторыя вяртання памяці музыканта Яна Тарасевіча найлепшы таму доказ. Яго імя вярнулася да шырэйшай грамадскай свядомасці ў 1999 годзе, калі ў Мінску адбыўся канцэрт пад загалоўкам „Абышоўся без славы”. Заслужаны мастак Беларусі Віктар Скарабагатаў, галоўны прапагандыст музыкі Тарасевіча ў Рэспубліцы Беларусь, развінуў загаловак канцэрта празорлівымі словамі: „Але слава не абыдзецца без яго”.**




Словы маэстра спрацавалі ўжо ў 2000 годзе. Мінскі канцэрт, дзякуючы польскай фанаграфічнай фірме, быў запісаны на кампакт-дыск пад загалоўкам „Chamber and Vocal Works”, які атрымаў найбольш прэстыжную польскую музычную ўзнагароду „Fryderyki”. Узнагарода была назначана за вакальныя творы на дыску, якія выканалі Віктар Скарабагатаў, Тацяна Цыбульская і мужчынскі хор „Славяне”. Здавалася б, пасля такой узнагароды справа забытай памяці кампазітара лавінай зрухнецца ўперад. Аднак, не! Радзімае Падляшша быццам аглухла і зусім не адрэагавала на гэтую навіну. Не дапамагло нават і тое, калі славуты дырыжор Ежы Максімюк напісаў твор „Arbor” на 50-годдзе Польскага Радыё Беласток і прысвяціў яго Яну Тарасевічу. Максімюк заявіў, што яго музычны рост і ўсё апошняе — гэта дар атрыманы ад Тарасевіча. Ніхто, аднак, у Беластоку (апрача беларускіх СМІ) не хацеў слухаць пра забытага кампазітара. Уся гісторыя здавалася немагчымай і парабольшанай, ніякая культурная ўстанова не была зацікаўлена, каб падняць выклік.



Першае шырэйшае грамадскае адкрыццё адбылося 18 чэрвеня 2001 года. Тады група сяброў і паклоннікаў музыканта паехала ў Саколку. Прыехалі вучні кампазітара: Аліцыя Багінская і Збігнеў Папельскі. У гэты дзень мы адзначалі 40 гадоў ад смерці Тарасевіча. Гэта быў момант, калі ўрачыстая паніхіда над магілкай музыканта ператваралася ў шляхетную традыцыю парафіі. З гэтай пары ўжо пятнаццаць год у час прыхадскога свята вернікі ідуць хрэсным ходам на магілу Тарасевіча і супольна моляцца за яго памяць.

Справу з сардэчнай увагай даглядае сам дэкан Сакольскай акругі айцец Уладзімір Місяюк.

* * *

З музыкай справа простая, яе трэба іграць. Ніякія рэчы і словы не ў змозе фармаваць музычны пераказ. Так ці іначай, калі ў 2002 годзе „Ніва” выдала кніжку „W stronę Tarasiewicza”, зацікаўленасць асобай кампазітара набрала крэатыўнасці. Таленавіты кінарэжысёр Юры Каліна яшчэ ў 2002 годзе зняў дакументальны фільм пад загалоўкам „Jan Tarasiewicz, kompozytor zapomniany”. Таксама Беларускае гістарычнае таварыства выдала зборнік нот „Песні кахання”. Дзесяць гадоў пазней Таварыства „Сакольшчына”, на 50 гадавіну ад дня смерці кампазітара, замацавала мемарыяльную дошку ў цэнтры Саколкі. Мемарыяльная табліца (на польскай, беларускай і англійскай мовах) знаходзіцца на будынку гарадскога музея.

У той жа Саколцы існуе ўжо вуліца Тарасевіча. У гонар музыканта названая круглая плошча ў беластоцкім квартале „Петрашэ”. У міжчасе былі міжнародныя праекты, аднак не атрымалі яны крэатыўнага працягу ні ў музыцы, ні ў пашырэнні тэмы. Таму вялікай і цудоўнай справай быў для мяне мінулагодні канцэрт у Саколцы. На ім выступілі маладыя музыканты з Саколкі і Гарадка, апантаныя музыкай Тарасевіча. Упершыню, дзякуючы музыканту Шымону Борысу прагучалі новыя творы. Шымон Борыс пасля многіх перашкод раздабыў (на свой кошт) ноты з Мінскага архіва. Сам апрацаваў рукапісы і падшукаў музыкантаў, каб менавіта 3 кастрычніка 2015 года ў Саколцы прысутныя зразумелі, што пачаўся новы музычны працяг Тарасевіча. Зараз усе думаем як упарадкаваць магілку кампазітара.

* * *

Калі напярэдадні 55 гадавіны смерці Тарасевіча я пазваніла ў Саколку, бацюшка расказаў адно здарэнне. Імя Тарасевіча ўсё часцей асацыюецца з горадам над Саколдай. Аднойчы бацюшка наведаў аднаго натарыуса, які расказаў яму сусветную навіну. Вось, калі натарыус паехаў у Фінляндыю і заявіў, што ён з Саколкі, там ускліннулі з энтузіязмам. Фінскія сябры ведалі пра сяброўства Сібеліуса і Тарасевіча. Яны распавялі натарыусу пра тое, як геніяльны фінскі класік дабіраўся з Саколкі на брычцы ў падсакольскі маёнтак Шындзель...

Гэты расказ усвядоміў святару наколькі ў нас абыякавы і няўдзячны народ.

Найбольш баліць справа ўпарадкавання магілы.

У 55 гадавіну смерці Яна Тарасевіча два разы адслужылі паніхіду — у час урачыстай літургіі, калі ўсе ўдзельнікі прыхадскога свята (18 чэрвеня ў Саколцы адзначаюць дзень Дзевы Паўлы, а царкоўны фэст адбываецца на могілках), і калі хрэсным ходам пайшлі на магілку музыканта і там маліліся за супакой яго душы, сям'і і вучняў. Наша сяброўская дэлегацыя, якая рушыла проста з Сустрэч „Зоркі”, з-за буралому ў Кнышынскай пушчы спазнілася. І гэта паспрыяла ... падвойнаму ўганараванню памяці. Айцец Уладзімір разам з хорам яшчэ раз сходзілі на магілу кампазітара і адправілі паніхіду. Тады мы пазнаёміліся са спадарыняй Данкай Сцепанюк. Жанчына, у кожны час года даглядае магілку музыканта і лічыць гэта вялікім гонарам. Важнай, хаця прыкрай справай, застаецца ўпарадкаванне магілы з памылковымі надпісамі. Бацюшка абураны, што ніхто з мясцовых улад не зацікаўлены выкласці сродкі на гэтую мэту. Тым больш, што тутэйшыя людзі пакарысталіся маёмасцю музыканта:

— Маёнтак яго забраць — забралі, а вось толькі ледзь на мемарыяльную шыльду наскрэблі за гэтыя амаль 200 гектараў. Тут павінен стаяць помнік на пяць метраў вышыні — гаварыў бацюшка. — Гэта адзін з найбольш вядомых людзей, звязаных з нашым горадам. Замала пра яго гаворыцца. А гэта ж гонар нашага горада...

Парадаксальна, горкія словы святара крыху паднялі мяне на духу. Важна што людзі і грамада пачынаюць разумець недахоп пашаны для культурных вартасцей. Гэта чарговы выклік для культурных цэнтраў, бізнесменаў-мецэнатаў, грамадскіх суполак. Я першая далажуся да пабудовы намагільнага помніка са сваёй сціплай зарплаты.

З музыкай Тарасевіча ўсё нармальна. Яна жыва рухаецца ў напрамку поўнага адкрыцця і належнага прызнання. Тут спрацоўвае вышэйшы план і з'яўляюцца шчырыя, натхнёныя людзі. Музыкант Шымон Борыс, хоць нічога не ведаў пра святкаванне ў Саколцы, у той час напісаў мне мэйл: „Dostałem miesiąc temu skany etiud, jednej z sonat i fantazji białoruskiej. Zakończyłem właśnie sesję i zacząłem przeglądać co to za muzyka, jak się okazuje, w tym wypadku wprost oparta na tematach naszych rodzimych”.

Значыць, чакае нас новы, незабыўны канцэрт. Час не выкідае са свайго рэчышча ўсяго, што было і, здавалася б, мінула беспаваротна. Час вяртае нам Тарасевіча!

**Ганна КАНДРАЦЮК, фота з архіва Г.К.**



ISSN 0546-1960